


БЕЛАРУСКІ ТЕАТР.

Сцэнічныя творы.

# Дзядзька Якуб.
Фр. Аляхновіч.

Драматычны абраз у 2 актах.

# Міхалка.
Пераpаб. Далецкія.

Жарт у 1 акце.

# На вёсцы.
Фр. Аляхновіч.

Ідыльлічны абразок у І дзеі.

# Пярэстая Красуля.
А. Чужынін.

Жарт у 1 акце.

Цана 1.30 гр.



Беларускае Выдавецкае Таварыства.

Вільня . . . . . 1928

Францішак Аляхновіч.

# Дзядзька Якуб.

Драматычны абраз у 2-х актах са сьпевамі і скокамі.

(Выданьне 2-ое).

---

## АКТ 1

**Асобы з І-га акту:**

ЯКУБ.
КРЫСТЫНА, яго жонка.
АНДРЭЙ.
ІГНАТ.
БАБА—суседка.

Сялянская хата. На апошнім пляне між шафай ды печкаю працягнута хвіранка, за каторай відаць частку хаты; там стаіць ложак, куфар і інш. З правага боку на першым пляне вакно, перад вакном стол і лавы. З левага боку—ложак, перад ім прывязаная да стольнай бэлькі калыска, а ў ёй малое дзіця. Далей з левага боку дзьверы.

### ЗЬЯВА 1-ая.

**Крыстына** (маладая прыгожая кабеціна, стаіць адна ля вакна і пяе):

Сэрцэйка стогне, сэрцэйка плача,
бо мне любіці бароняць, —
б'ецца страшэнна ды ў грудзёх скача,
моў яго нехта стуль гоніць.

Бо ў людзкой мове слоў мы ня маем,
каб сэрца перэканаці, —
калі мы ўсею душою кахаем,
з сэрца любоў не прагнаці. —

Кожна работа валіцца з рук мне,
мейсца сабе я не знайду:
ці дзьверы скрыпнуць, ці нехта стукне,
мне ўсё здаецца — ідзе ён. —



Ах, мой адзіны, прыходзь хутчэй-жа,
бо сіл чакаці ня маю,
прыходзь, саколік, ах, лятасьць май-жа,
бо нецярпліва чакаю.

(адыходзіць ад вакна, ідзе да ложка).

## ЗЬЯВА 2-ая.

**Крыстына, Баба-суседка.**

**Баба** (праз вакно). Як маешся, Крыстыначка? — Адна? сумуеш?...

**Крыстына**. А—гэта вы!... Заходзьце, зрабеце ласку, бо страшэнна маркотна... зайдзеце, паваражэце мне.

**Баба**. Дык я так толькі... міма... Часу ня маю дый карт не ўзяла.

**Крыстына**. У мяне ёсьцека... Паваражэце, вы-ж гэтак даўно не варажылі мне!

**Баба**. Ну, хіба, што на момант... (за хвіліну ўваходзіць праз дзьверы).

**Крыстына** (дастае з шафы карты). Вось маеце... Сядайце, будзьце ласкавы...

**Баба**. Што-ж гэта ты так разласавалася на варажбу?

**Крыстына**. Бо калі ў душы нудна, то страшэнна хочацца ведаць, што будзе...

**Баба**. Эх, бывае, што ляпей як ня ведаеш таго, што будзе...

**Крыстына**. Ці гора, ці радасьць, а ўсё лепш ведаць...

**Баба**. Як хочаш... (картуе карты). Чаго-ж ты такая нязвычайная сягоньня?... Мо хворая, ці што?...

**Крыстына** (з рухам распачы). Ах, лепш ня пытайцеся!...

**Баба** (ціха). Даўно ня быў?

**Крыстына** (уздыхнуўшы). Даўно...

**Баба**. Мо жонка даведалася... Ня пушчае...

**Крыстына**. О, гадаўка подлая!...

**Баба**. А мо іншую знайшоў сабе... Ведаю — ў месьце шмат дзяўчат ды ўсе распусныя, толькі і глядзяць, каб мужыка прыманіць, а мужчына, ведама, ўсё роўна, што сабака...

**Крыстына**. Ой, не кажэце, ён не такі!...

**Баба**. Усе яны добрыя толькі да часу...

**Крыстына**. Мы ўжо так доўга любімся!...

**Баба**. А як-жа, твой... Нічога і ведаць ня ведае...

**Крыстына**. Нешта калісь ведаў... Хай ён здохне!

**Баба**. Не кажы гэтак!...

**Крыстына**. Або навошта ён мяне мучае?... я-ж яго ня люблю!... Як жаніўся, ведаў-жа, што я яго ня люблю, але казаў: выйдзе замуж, палюбіць... (Іранічна). Але! палюбіць!... Нейкі час пільнаваў як чорт душу, ня верыў значыць... цяпер трохі супакоіўся, як Андрэй пайшоў на хвабрыку ў горад...

**Баба**. Ой, не маё гэта дзела, але ўсё-ж такі кажу: грэх, вялікі грэх!... Ён — Адрэй жанаты, ты—мужа маеш... Хоць рабі, што хочаш, не маё гэта дзела, я толькі так... глядзі каб бяды не набрацца!

**Крыстына** (раптам). Але я вам тут усё кажу, толькі-ж вы нікому не кажэце!...

**Баба.** А мне на што гэта?! Я што ведаю, то ведаю— а казаць на што!... Я не такая... (Падсоўвае Крыстыне карты). Ну, дык перэлажы.

**Крыстына** (бярэ карты праваю рукою).

**Баба.** Не, ня гэтай, а леваю рукою,—няўжо-ж забылася?

**Крыстына.** Але, забылася...

**Баба** (раскладае карты). Ты, значыцца—вось гэтая краля... Вось...

**Крыстына.** Ведаецце? — ўсё тое, што вы ў апошні раз казалі, ўсё спраўдзілася... Якраз мой грошы дастаў, а ён пісьмо прыслаў... Усё, як карты паказалі... І як гэта? карты — а так ўсю праўду паказваюць!...

**Баба.** Значыцца, ужо моц такая ёсьць...

**Крыстына.** І скуль вы гэта ўмееце ?

**Баба.** О, я ўжо даўно... А навучылася ад сваей маткі нябошчыцы... Вось яна, бывала, як разложыць карты, дык ўсё ведае, усё!... Людзі здалёк прыходзілі... Толькі з картамі трэба ўмець, каб не збаламуціліся... (глядзіць на карты і тыкае пальцам). Ну, вось раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць, сем, восем, дзевяць... Вось тутака, значыцца, нейкая неспадзеўка, каторай не спадзяешся... Неспадзеўка, значыцца, будзе праз гэтага караля... Вось як!... Раз... два... тры...

**Крыстына** (Паказвае пальцам на карту). Гэты ? — Гэта ён!

**Баба.** Мо і ён... А вось гэты жалудовы нешта благое замышляе...

**Крыстына.** Хто-ж гэта?

**Баба.** Ня ведаю... Мусіць твой муж... І вось раз, два, тры, чатыры... (бармоча сабе пад нос, лічучы карты да дзевяцёх).

**Крыстына.** І на якое ліха бацькі мяне замуж за яго аддалі?... Я-ж не хацела!...

**Баба.** Ну, што-ж! нічога не парадзіш... прывыкнеш...

**Крыстына.** А лепш было-б, каб ня любіў!... Для мяне няма горшай горшасьці, як яго любоў!... Здаецца, каб ня любіў, шчасьлівейшай я-б была!

**Баба** (ізноў варожачы). Раз... два... Ой, зязюлечка мая, Крыстыначка! Ізноў гэтыя паганыя віні лезуць!... Вось адна, вось і другая карта!...

**Крыстына.** Ну, дык што?

**Баба.** Будзе бяда якаясь... Вось яшчэ!... Раз... два... тры... Не! круці—не вярці, а будзе якоесь гора-няшчасьце!...

**Крыстына** (спалохаўшыся). Што вы кажаце?!

**Баба.** Але ты не палохайся... Трэба да трох разоў папрабаваць. Раз, два, тры, чатыры...

**Крыстына** (пабачыўшы праз вакно). О! мой ідзе! Хутчэй давайце карты, бо ён гэта ня любіць... фармазонская справа, кажа, карты... (Баба хутка зьбірае са стала карты).

ЗЬЯВА 3-яя.

**Крыстына, Баба, Якуб** (уваходзіць).

**Якуб** (дужы мужык, гадоў 45-50, трохі сівы, пануры). Варажыла пэўна?

**Баба.** Ды не...

**Крыстына.** Прыйшла патэльню пазычыць...

**Баба.** Але. Бліны буду пячы...

**Якуб.** Чаго Бог ведаць не вялеў, таго ведаць нельга...

**Баба** (хітра). Дык мы не... (да Крыстыны)... Значыцца, я пасьля пад вечар аднясу... (нязначна аддае Крыстыне карты ды, ўзяўшы патэльню, выходзіць).

**Крыстына.** Добра... як ня будзе ўжо вам патрэбна...

ЗЬЯВА 4-ая.

**Крыстына, Якуб.**

**Якуб** (сядае, пасьля паўзы). Ня маеш чаго зьесьці?

**Крыстына.** Халодная заціркa ёсьцека.

**Якуб.** Ня хочацца. Вось аддала патэльню, — можна-б сьпячы яечню.

**Крыстына.** Вось яшчэ чаго захацэлася!

**Якуб.** Што шкадаваць, калі ёсьць.

**Крыстына.** А заціркі ня ласка. Во—далікатны пан!.. (ідзе налева, сядае на ложка ды пачынае калыхаць дзіця).

**Якуб** (падыходзіць да яе). Чаму ты, Крыстына, як тая асва. Нічога папрасіць нельга, нічога нельга сказаць, — у вочы кідаешся. Ці-ж я для цябе благі? Ну, скажы сама: ці-ж я для цябе благі? (хоча яе абняць).

**Крыстына** (адпіхаючы яго). Ідзі!...

**Якуб.** Што-ж гэта? Ці-ж я ня муж твой? Ты-ж мне прысягала...

**Крыстына** (глядзіць на яго з ненавісьцю, ня спускаючы вачэй і маўчыць).

**Якуб.** Ну, чаго-ж ты маўчыш? Чаму ты нічога не кажаш? Чаму ты глядзіш? Нічога ня кажаш?... Добра... (адыходзіць ад стала). Добра! Значыцца, ты ня любішь мяне... Можа ты яго?! Калі-б так, то сьцеражыся! бо вон з маей хаты, вон!... я хаты сваей паганіць не пазволю!...

**Крыстына.** Чаго-ж ты? я-ж нічога не кажу.

**Якуб.** Ты нічога ня кажаш, але я ў тваіх вачох, як у кніжцы чытаю. У тваіх халодных, бязьлітасных, бясстыжых вачох... Твае вочы як нажы раняць маё сэрца... Ты-гадаўка!...

**Крыстына.** Вось гэтак заўсёды: ледзь прыйшоў у хаты, ўраз пачынае сварыцца, злавацца... То таго прычэпіцца, то дзеля гэтага... Цяпер прычапіўся да маіх вачэй... Ну чаго ты ад мяне хочаш?

**Якуб**. Я хачу, каб ты іншай была.

**Крыстына**. Ну якой-іншай? Ці-ж я благая. Ну, што я табе зрабіла, скажы сам?... Сяджу ды дзіця калышу, а ты прычапіўся: Крыстына ды Крыстына!... Сам мусіць ня ведаеш, чаго ад мяне хочаш!... У карчме быў ці што? напіўся пэўна!...

**Якуб**. Я хачу заглянуць у тваю душу... Я хачу ведаць, што ў душы ў цябе, бо твае вочы гавораць мне страшную праўду...

**Крыстына**. Ці ты ксёндз, каб я перад табою спавядалася.

**Якуб**. Я хачу, каб ты была такой, якой я бачу цябе ў думках сваіх... Каб ты любіла мяне, цешылася, як я прыходжу да хаты...

**Крыстына**. Вось яшчэ чаго! Цешыцца, калі заўсёды злы як чорт.

**Якуб**. Злы? А чаму я злы? Бо ты нядобрая, бо ты ня так, як іншыя, бо ты... Слухай! я-ж не заўсёды быў такі: я калісь сьмяяўся, весяліўся, а цяпер... Цяпер я ўжо забыўся, як гэта сьмяяцца, я не патраплю... З таго часу, як ажаніўся з табою...

**Крыстына**. Дык значыць ня трэ' было жаніцца!

**Якуб**. Ня трэ' было — кажаш... Хто ведае, мо' й ня трэ' было... Гэтак усе кажуць, гэтак кажа і Ігнат...

**Крыстына**. Ігнат... Такі-ж п'яніца, як і ты.

**Якуб**. П'яніца... Ці ты, Крыстына, ведаеш, чаму я ў карчму іду, чаму гарэлку п'ю?... Забываецца ўвесь боль душы, чалавек робіцца нейкі дужы, сьмелы... Такія нейкія думкі, словы лезуць у галаву... Здаецца, хутчэй трэба йсьці да хаты, расказаць табе ўсё, што на душы, — ты ўсё тады зразумееш, палюбіш... А прыйшоў у хату, — жонка як тая шалёная асва, як... як...

**Крыстына** (перэдражнівае яго). Як... як... Калі нап'ешся значыцца, пахваліць цябе, ці што... — Ты п'еш, табе прыемна... А мне што? мне якая прыемнасьць? — Сяджу адна ў хаце, прыйдзе суседка паваражыць — і то злуешся... Я хачу пяяць, скакаць, весяліцца... Я жыць хачу!... А ты заўсёды пануры, як мядзьведзь. Нікога няма... Усюды ўвакруг толькі старыя мужыкі п'яніцы...

**Якуб** (зайздросна). А ты-б мо хацела, каб малады!..

**Крыстына** (злуючы яго). Ну ведама!

**Якуб** (злосна). Крыстына, не даводзь мяне да злосьці!

**Крыстына** (адважна). А ну дык што?!

**Якуб**. Мо хацела-б, каб твой Андрэй?...

**Крыстына** (са злосьцю). Чаго прычапіўся? П'яны, дык ідзі спаць.

**Якуб**. Крыстына, дабра табе ня будзе...

**Крыстына**. А што? Біць будзеш? Бі!...

**Якуб** (замахнуўшыся). Крыстына!...

## ЗЬЯВА 5-ая.

**Крыстына, Якуб, Ігнат** (уваходзіць).

**Ігнат.** Пахвалёны...

**Якуб.** На векі...

**Крыстына** (глянуўшы з ненавісьцю на Якуба, выйшла).

## ЗЬЯВА 6-ая.

**Якуб, Ігнат.**

**Якуб** (сядае і апірае галаву на руках; паўза).

**Ігнат** (глядзіць на яго). Чаму-ж ты гэта так?

**Якуб** (махнуўшы рукой). Ат!...

**Інат.** Нелады?

**Якуб** (як вышэй) Эх! што казаць!..

**Ігнат.** Ня ўмееш! Ты-ж мужык, яна—баба. Павінна слухаць цябе і ўсё такое... Усё павінна быць патвойму.

**Якуб** Лёгка казаць!...

**Ігнат**. З бабамі трэба ўмець...

**Якуб.** Вось у чым бяда: я нічога ня ведаю, яна маўчыць... Памятаеш, перад нашым шлюбам быў гэты... Андрэй. Любіліся. Бацькі яе сказалі: „як выйдзе замуж усё пройдзе“... Я паслухаў. Ажаніўся. Ды бачу, што нешта ня так... Думаў, што як будзе дзіця, усё інакш будзе... Вось так-год радзілася яна — Антося наша, а перамяніцца нічога не перэмянілася... Яна мне ніколі не гавора, што ў яе ў сярэдзіне, ў душы... Яе душа, як той сьлімак, скорчылася, зачынілася перада мною ды маўчыць... Каб толькі гэта, — гэта яшчэ паўбяды, а вось баюся, каб граху ня было!... Андрэй таксама ажаніўся, у горад на хвабрыку пайшоў. Дык-жа горад блізка, ад час-да-часу прыходзе сюды на вёску, быццам да сваякоў, людзі ўжо пачынаюць нешта шаптаць...

**Ігнат.** А ты пільнуй, глядзі, і як толькі што — вон з хаты выгані, няхай назад да бацькоў ідзе, на сорам людзей... Так і Бог вялеў.

**Якуб**. Я гляджу, пільную ды яшчэ не злавіў... Ох, Ігнат! цяжка жыць ў гэтакай няпэўнасьці. Здаецца, калі й хата павінна на мяне абрушыцца і прыдушыць, няхай ужо адразу грымне мне на галаву, а не трашчыць, лопаецца, хістаецца ды валіцца памалу. Ляпей адразу ведаць усё найгоршае, чымсь і гэтак мучыцца, раздумываючы, што гора яшчэ няма, але хутка-няхутка страсецца над табою бяда... Іншы да хаты бяжыць рады; там жонка чакае яго, там супачыне, а мне ў хату ісьці, ўсё роўна што на пакуту якуюсь. Ледзь парог пераступіў — ураз пачынаецца... Вось і сягоньня, вось і цяпер...

**Ігнат.** А ты кінь думаць аб усім гэтым ды ня тужы!

Што мае быць, тое й будзе. Будзе блага, скажы сабе: можа быць горш, няма рады, так, значыць, на раду напісана... Калі што — жонку да бацькоў ейных адашлі і жыві, як раней... А мо' Бог дасьць, што ўсё пераменіцца, усё добра будзе,—ну дык і дзякуй Богу.

**Якуб.** Чуе маё сэрца, што дабра ня будзе, ой ня будзе! Ты кажаш — жонку адаслаць... Ігнат! Не ў магату жыцьцё мне без яе. Задала яна мне штосьці ці што... І калі-б я перэканаўся, што мае дагадкі — праўда, калі-б, крый Божа, злавіў іх — ну і ім, і мне дабра-б ня было...

**Ігнат.** Што-ж думаеш рабіць?

**Якуб** (панура). Будзе блага.

**Ігнат** (устае). Кінь! ня думай. Вось лепш хадзі — пойдзем да Янкеля на чарачку, ясьней ў галаве ды ў сэрцы будзе... (тузае Якуба). Шапку бяры, уставай.

**Якуо** (устае). Няхай!.. Пойдзем, Ігнат! (выходзяць).

ЗЬЯВА 7-ая.

**Андрэй** (праз вакно).

**Андрэй** (пасьля паўзы ўсоўвае праз вакно галаву, разглядаецца па хаце, пасьля ціха кліча): Крыстына! Крыстына! (Не пачуўшы адказу, хаваецца).

ЗЬЯВА 8-ая.

**Крыстына і Баба** (ўваходзяць).

**Крыстына.** Хадзеце-ж хутчэй... Дык кажэце, што... бачылі яго?

**Баба.** Але. Пайшла я за вёску на дарогу, дзе крыж. Бачу, ідзе нехта дарогай з лесу. Я гляджу: ён! Скрыпку пад пахаю нясе, на плячох клумак. Пабачыў мяне,—„здарова“ —кажа. Затрымаўся, хацеў, відаць, нешта сказаць, ці папытацца, ды махнуў рукою і пайшоў сюды ў вёску.

**Крыстына** (радасна). Андрэй прыйшоў...

**Баба.** Толькі сьцяражыся, каб бяды не набрацца!.. (пасьля кароткай паўзы, перэмяніўшы тон). Бачыла я, нядаўна вы кабана закололі... Пазыч мне кусочак сала... Аддам...

**Крыстына** (дастае з шафы сала, адразае кусок, дае бабе, а нож пакідае на стале). Маеце!.. Можаце не аддаваць, глупства...

**Баба.** Дзякую табе, галубанька!.. Аддам, даль-бог, аддам... (выходзіць).

ЗЬЯВА 9-ая.

**Крыстына,** пасьля **Андрэй.**

**Крыстына** (сядае перад люстэркам ды, распусціўшы валасы, пачынае заплятаць косы).

**Андрэй** (уваходзіць). Крыстына!

**Крыстына** (кідаецца яму на шыю). Андрэй!

**Андрэй**. Твой, я бачыў, з Ігнатам пайшоў у карчму... Я пасяджу тут крыху...

**Крыстына**. Сядай, сядай, саколік!.. Ох, як даўно ня быў... А я так чакала, так мучылася, думала, што ты ўжо ніколі ня прыдзеш (пяе):

Чаму-ж так доўга ня прыходзіў?
Ці-ж ты забыўся, што я чакаю?
Можа там іншых дзяўчат пазводзіў,
А я тужу тут, ды ўсё ўздыхаю...

Мо' знайшоў іншу, мо' ўжо забыўся —
У галаву лезьлі думкі такія,
Ды кожну ночку ты мне ўсьцяж сьніўся,
А ў дзень зьяўлялісь думкі страшныя.

**Андрэй** (пяе):

Як-жа я мог-бы цябе забыці —
Маё каханьне, маю Крыстыну.
Мне надта цяжка без цябе жыці,
Бо адну маю радасьць адзіну...

Калі пабачу цябе, Крыстына,
Усё на сьвеце я забываю,
Бо для мяне ты адна-адзіна,
Бо адну толькі цябе кахаю.

**Андрэй**. Як я пабачу цябе, здаецца, што сонца ясьней сьвеціць, птушкі радасьней пяюць... Дарагая мая, каханая, адзіная Крыстыначка! Люблю цябе!..

**Крыстына**. Чаму так даўно ня быў?

**Андрэй**. Даўно ўжо рваўся да цябе, ды ня было як... Работа ды апрача таго ў хаце...

**Крыстына**. Што ў хаце?

**Андрэй** (ня гледзячы на Крыстыну). Жонка мая хварэла... дзіця мела... радзіўся сын... Трэ' было сядзець пры ёй, а там яшчэ хвабрыка... работа... запрацоўваешся...

**Крыстына** (праз сьціснутыя зубы). Ось як!

**Андрэй** Ляцеў я да цябе, як на крыльлях... Праз усю дарогу думаў: а што праз гэты час здарылася? а мо' ты захварэла, а мо' разлюбіла ўжо мяне!

**Крыстына**. Калі-б гэта была праўда, мог-бы раней прыйсьці. А мне тут так цяжка... з ім...

**Андрэй**. Крыстына! я-ж кажу, што ніяк ня мог... Няўжо-ж ня верыш?

**Крыстына**. Толькі ты цяпер ужо на так доўга ня кідай мяне... бо сіл ня маю...

**Андрэй**. Цяпер часьцей буду прыходзіць...

**Крыстына**. Бо я думала, што можа ты цяпер толькі з жонкаю... На што жаніўся?.. калі ты запраўды мяне любіў...

**Андрэй**. Крыстына! памятаеш, як цябе аддалі за Якуба... як было вясельле, я на другі дзень пайшоў у горад, каб далей ад цябе, каб не глядзець на вашае шчасьце...

**Крыстына** (іранічна). Шчасьце!..

**Андрэй**. Я там дастаў работу... Горад, работа, людзей многа... Я думаў, што забудуся аб табе... Але ня мог забыцца. Думка аб табе ў дзень выкідала мне работ з рук, у начы не давала самкнуць вачэй... Я быў як здурэўшы. Я біўся лобам аб сьценку... Я сох, як дрэва пяруном разьбітае... Людзі глядзелі ды дзівіліся... Хацеў забыцца аб табе ды ня мог... Тагды я пазнаў яе—Алёну... Яна была добрая, любіла мяне. Я падумаў, што як ажанюся, — забудуся, што гэта хвароба пройдзе. Дык не! яшчэ горш. Уначы пры ей, пры Алёне, я думаў толькі аб табе, я заплюшчываў вочы—і тагды ты зьяўлялася перада мною... Туга па табе мучыла мяне бязупынна... І гэтак, чымсь далей, ты горш... Я пачаў піць... папрабаваў... Ды не! П'яны я яшчэ больш сумаваў, яшчэ больш тужыў... Крыстына... згіну я, прападу без цябе!

**Крыстына**. І мне жыцьця без цябе нямашака. Андрэй, а як-жа твая? ці ведае?

**Андрэй**. Ведае. Плача... Ох, надаелі мне гэтыя сьлёзы... ракою льюцца...

**Крыстына**. Ох, каб гэта... (раптам устрымалася).

**Андрэй**. Што?

**Крыстына**. Вось сьмерці ім Бог не дае... Мой стары ўжо, а не памірае....

**Андрэй**. Ён яшчэ крэпкі.

**Крыстына**. Слухай, кажуць ёсьць такія парашкі, што як чалавек засьне, дык ужо не прасьнецца.

**Андрэй** (з перапудам). Што ты!?... што ты!?...

**Крыстына**. Ен-жа засьне...

**Андрэй**. Страшэнны грэх!..

**Крыстына**. Ах, калі-б ён памёр, кінула-б усё і пайшла ў горад за табою... Вось толькі маю малюсенькую—маю Антосю ўзяла-б з сабою.

**Андрэй** (панура). Дзіця...

**Крыстына**. Што? ня хочаш? Яна-ж бедненькая, чаму-ж ты яе ня любіш.

**Якуб** (з націскам). Я г о дзіця..

**Крыстына**. Дык што?

**Андрэй**. Як я падумаю, што ён тут у хаце гаспадар, што ты ягоная жонка, што ён мае тут усялякае права... Ох!..

**Крыстына**. Я-ж ня люблю яго.

**Андрэй**. Гэта мала. Я хачу каб я адзін...

**Крыстына**. Ты-ж таксама жонку маеш.

**Андрэй**. Яна для мяне як чужая. Адзін раз ухапілася

рукамі за шыю, прытулілася і пачала плакаць... Чаго? — пытаюся. „Ня любіш ты мяне—кажа — загубіў ты жыцьцё маё...“ Я адпіхнуў яе ад сябе. З тэй пары ніколі нават не дакранецца да мяне... Здалёк толькі глядзіць на мяне, як спалоханы сабака, ціха плача... Шкада. (За сцэнаю чуваць вясёлыя сьпевы і скрыпку).

**Крыстына** (радасна). Пяюць...

**Андрэй**. Я скрыпку прынёс... Стапук пазычыў, іграе... Вечарынка ў сеседавай хаце... Пойдзем, Крыстына!

**Крыстына.** Пойдзем Андрэйка! (Выходзяць. Зьмяркаецца).

## ЗЬЯВА 10-ая.

### Якуб адзін.

**Якуб** (уваходзіць трохі п'яны). Крыстына, ты выбачай... я з Ігнатам... Крыстына?.. дзе ты? (разглядаецца). Няма. Ужо недзе паляцела. Кінула мяне аднаго. Заўсёды так. Ох, Божа мой!.. (трохі хістаючыся падыходзіць да калыскі і глядзіць на дзіця). Сьпіць?—Сьпі!.. Ня чуй, ня ведай, што тут у грудзёх твайго бацькі... (б'ецца кулаком у грдзі). Тут бура шуміць, віхар страшэнны завывае, усю душу ўверх нагамі выварачвае, сэрца стогне, як ранены зьвер, — а ты сьпі, дачушка мая, малюсенькая, бязьвінная, няшчасная!... І на вошта ты на сьвет радзілася? На вошта ты зьявілася тутака, дзе няма радасьці, дзе сьмеху ніколі не пачуеш, і сама сьмяяцца не навучышся, дзе бацька твой сьлёзы горкія як доля праліваае ды навявае жудасныя сны над калыскаю тваею?... Я раней думаў, што ты нам прынясеш вясельле, згоду, радасьць, ды не! І ты не разьвееш хмар, што сабраліся над няшчаснай маёю галавою!... (адыходзіць ад калыскі). А там скачуць! весяляцца! Зайздрую ім, бо хацеў-бы і я... а тут нешта комам у горле становіцца... Хачу песьні пяяць, а замест песьні—з грудзей стогн, а з вока сьляза зрываецца... (выймае з кішэні бутэльку). Адна ўцеха засталася мне—гарэліца мая каханая!.. Яна верная, не здрадніца, прыяцелька мая да гробу... Эх! (ідзе ў глыб сцэны, рассоўвае хвіранкі, сядае на ложку і п'е).

## ЗЬЯВА 11-ая.

### Крыстына, Андрэй, пасьля Якуб.

**Крыстына** (увадохзіць з Андрэям, замарыўшыся і радасныя). Ох, замарылася-ж, саколік мой!... Сіл ужо ня маю... супачыну...

**Андрэй.** Сядай на лаве, я пры табе... (сядаюць абняўшыся).

**Крыстына.** Як вось я так з табою, я забываюся аб усім... Нічога, нікога нідзе няма, толькі ты ды я, я ды ты... Андрэйка мой! салодкі мой! ...Ах, толькі ты прыходзь часьцей...

**Андрэй.** Не, Крыстыначка, нам ужо нельга расставацца!... я не магу ісьці да хаты ў горад, хата мая мне быццам катарга. Нам трэба кінуць усё і жыць разам, каб ніколі не расставацца, каб кожную часіну адзін аднаго бачыў, туліў, цалаваў... Слухай, сягоньня я начую тут у вёсцы... У Стапука я меўся начаваць... Я спаць ня буду... Буду сядзець на прызьбе і чакаць.

**Якуб** (у часе апошніх слоў Андрэя выйшаў з бакоўкі. Словы яго рвуцца ад злосьці). Ты... тут!?... (кідаецца на Андрэя).

**Крыстына** (баронячы Андрэя). Якуб!...

**Якуб**. (кідае Крыстыну вон ад сябе; яна падае перад калыскаю і гэтак засланяючы сабою дзіця, застаецца на мейсцы, гледзячы з устрымленым дыхам на барацьбу.)

**Якуб.** (да Крыстыны). Вон!!... (да Андрэя). Ты тут!!... (хапае яго за горла і пачынае душыць. Тузаюцца. Андрэй, аслабаніўшы горла з рук Якуба, хапае яго за грудзі і валіць на стол. Якуб абапёршыся рукамі аб стол, намацаў нож, пакінуты Крыстынай, як яна рэзала для бабы сала, і садзіць яго ў горла Андрэю).

**Андрэй** (падае).

**Крыстына.** (з крыкам ускаквае з падлогі й выбягае з хаты). Людзі! ратуйце!...

**Якуб** (над трупам Андрэя). Вось, значыцца,—праўда... Даведаўся!.. (За сцэнаю далей чуваць песьні, скрыпку, скокі).

З а с л о н а.

---

## А К Т II

**Асобы з 2-га акту:**

ЯКУБ.
ІГНАТ.
КАСТУСЯ, яго жонка
АНТОСЯ, дачка Якуба і Крыстыны
ПРАНУК, сын Андрэя.
ДЗЕД з іншай вёскі.
Хлопцы і дзяўчаты.

Летні вечар. Перад хатаю на лавах сядзяць хлопцы і дзяўчаты. Пяюць.

Рэч дзеецца 20 гадоў пасьля здарэньня ў 1-м акце.

### З Ь Я В А 1-ая.

**Пранук, Антося, Хлопцы і дзяўчаты.**

**Х о р** (пяе).

Скачуць хлопцы і дзяўчаты,

кожна просіць: прышлі сваты,
бо йсьці замуж кожна хоча,
усьцяж адно толькі стракоча.

Каб жанілісь хлопцы-гады,
не дасі ніякай рады —
ім пасаг дай не малы:
конь, кароўка, два валы.

Вось тады справа інакш зусім.

**Пранук** (солё да Антосі).

Дзяўчыненька, люблю цябе,
пры табе я як у небе,
шчасьця лепшага не знаю,
бо цябе люблю—кахаю.

Мне на што пасаг? — ня трэба,
я свой маю кусок хлеба,
мне на што чужыя грошы,
як сам маю толькі трошкі.
(пасьля сьпеву ідзе з Антосяю ў хату).

**Хор** (пяе).

Скачуць хлопцы і дзяўчаты і т. д.

## ЗЬЯВА 2-ая.

**Дзед, Ігнат, Кастуся, Хор.**

**Кастуся** (старая кабеціна, выходзіць з хаты). Хадзеце-ж, госьцейкі ў хату, падмацуйцеся крыху...

**І-шы хлапец**. У нас сілы і так хваце!...

**Ігнат**. Ідзі, дзядюк, у хаты вып'еш чарку гарэліцы... (да Дзеда з іншай вёскі, каторы таксама выйшаў з хаты). А вы, куме, чаму-ж не йдзяце разам з іншымі?

**Дзед**. Мне душна ў хаце, ды ня п'ю... Дактары забаранілі, як быў у горадзе, пытаўся. Кажуць—шкодна вельмі.

**Ігнат**. Ня трэба верыць. Гэта яны з вялікай вучонасьці гэтак. Гарэлка заўсёды памагае. Як толькі што — паўчаркі гарэлкі, паўчаркі перцу і як рукой здыме... (кліча ў хату). Антося!

**Дзед**. Не, лепш я ўжо тут пасяджу. Там усё моладзь, што ім да нас старых!...

**Ігнат**. І гэта праўда...

## ЗЬЯВА 3-яя.

**Ігнат, Дзед, Антося** (ўваходзяць).

**Ігнат**. Антося, дай нам тут па чарачцы.

**Антося** (выходзіць),

ЗЬЯВА 4-ая.

**Ігнат, Дзед.**

**Дзед.** Знакам тым, хутка мусіць і вясельле гуляць будзе?

**Ігнат.** А няўжо-ж. Трэба ўжо. Навошта ім мучыцца? Кахаюцца... Пранук добры хлапець... Хоць бацька, пакой яго душы—ў горад пайшоў,—сына туды ня цягне. На вёсцы сядзіць, гаруе ў роднай вёсцы.

ЗЬЯВА 5-ая.

**Ігнат, Дзед, Антося** (уваходзяць).

**Антося** (дае Ігнату чарку й бутэльку). Вось дзедачка! (выходзіць).

ЗЬЯВА 6-ая.

**Ігнат, Дзед.**

**Ігнат.** Вось мы тут з кумам і падмацуемся! (выпівае і дае Дзеду).

**Дзед** (выпіўшы). Фу! моцная!

**Ігнат.** А, нічога,.. Справядлівая гарэлка. Памойму дык лепш выпіць дзьве чаркі моцнай, чымсі адну сла́бай... (зноў налівае). Ну, на здароўе!

**Дзед.** Будзьце здаровы! (выпівае). А! пячэ!

**Ігнат.** Няхай пячэ — гэта добра. Усю, значыцца, ў сярэдзіне хваробу выпяча, і чалавек здароў будзе... (кашляе). Кхэ-кхэ... (закурвае люльку).

**Дзед.** Значыцца, дзяўчыну з хаты — клопату меней.—

**Ігнат.** Ды якія там клопаты? Памойму, дык няхай сядзела-б у дзеўках колькі хоча... Ну, што-ж калі Пранук ей вельмі спадабаўся!... Няхай, пажэняцца, — а праўду кажучы, то й шкада выпускаць з хаты: сумна, нудна будзе... Прывыклі мы да яе, палюбілі, як роднае дзіця. Сваіх Бог ня даў!...

**Дзед.** Скажэце-ж, значыцца, аб бацьку яе — аб Якубе — так і ні слыху, ні дыху?

**Ігнат.** Але. З тэй пары, як здарылася гэтае здарэньне, я ўжо з ім больш ня гутарыў. Зара пасьля гэтага зьявіліся, значыцца, стражнікі ды ўзялі Якуба ў турму. Гаспадарка ня клеілася, дабро марнавалася, бо, ведама, баба бяз мужыка ўжо ня тое... Ды яшчэ суседзі, замест памагчы, толькі пальцамі паказвалі ды зьдзекаваліся: „а ты такая, а ты сякая! мужыка свайго загубіла“...—Ведама, людзі! Ім чужое няшчасьце — што? Каб толькі языком памалоць!... Вось кабеціна пачала нешта хварэць, сохнуць ды хутка памерла,

не прайшло нават году ад гэтага здарэньня. У хаце засталася толькі адна Антося — дзіця малюсенькае, у калысачцы. Сабраліся суседзі, матку адвязьлі на магілкі—Сымон каня даў, — пахавалі пахрысьціянску — Вінцэнт выстругаў крыж — злажыліся па грошу ад носу, ўспамянулі як сьлед ды пачалі раіць, што з дзіцянём зрабіць. Вось я з маёй Кастусяй глянулі адзін на аднаго дый кажам: сваіх Бог ня даў, дык давай гадаваць гэтую сіротку...

**Дзед.** А бацька мусіць недзе ў катарзе згніў?

**Ігнат.** Дык вось бач, кум, пасадзілі яго ў турму... Сядзеў гэта ён, сядзеў — усё яшчэ пакуль суд... Кажуць, адзін раз хацеў павесіцца, але пабачылі й адчапілі... Сядзеў ён, сядзеў, ажно й павялі яго нарэшце на суд—гэта нешта пад восень было. Паклікалі й нас у горад, каб, значыцца, сьведчыць, што і як было. Глядзім: прывялі Якуба. Астрыжаны, барадою аброс, зьбялелы... Сеў на лаве, а жаўнер каля яго з шабляю стаіць... Вось тут пачалося... Пыталіся нас: а што? а як?... Пасьля пачалі паны гаварыць. Адзін судзьдзя такі срогі быў. Устаў і пачаў гаварыць усё на Якуба... „На катаргу, кажа, такога, на катаргу, каб і духу ня было!... Гляджу я на Якуба... Нічога. Жаўнер каля яго стаіць, а ён сядзіць зьбялелы, толькі барада ў яго ад час-да-часу гэтак: дрыгсь! дрыгсь!—ад страху, значыцца, зубамі ляскае. Ажно тут, браток ты мой, устаў адвакат, увесь у чорным, і гэты пачаў сваё... Ну, каб ты чуў! Каб яго маланка! — Вось дык язык! Ажно ў горле ў яго перасохла ад гэтай гутаркі. Пап‘е трохі вады й далей гавора. Адзін раз судзьдзя з ланцугом на шыі, што пасярэдзіне сядзеў, перапыніў яго, каб мусіць ня надта ўжо разыходзіўся, а ён усё далей сваё сакоча. Дзіва! з чаго гэта ён, бо-ж грошаў яму ніхто за гэта не даваў. Мусіць ужо так пашкадаваў бедненькага Якуба. Пасьля яшчэ гаварылі, а пасьля разыйшліся ў розныя бакоўкі... Мы ціха гутарым: што будзе? прапаў наш Якуб, загубіў сябе. Ажно раптам выскачыў якісь важны такі і срога крыкнуў: „проша ўстаць! суд ідзе!“. Ізноў ўсе селі на свае мейсцы. Потым выйшаў наперад якійсь куртаценькі і кажа судзьдзям: — „не, не вінаваты“ — і ўсе яго паслухалі: мусіць важная фігура быў. Мы аж ахнулі з дзіва. Як?... Не вінаваты, значыцца?... Але болей Якуба ўжо ня прыйшлося мне пабачыць. Прапаў недзе. Адны кажуць, што ў Кальварыю на каленах пайшоў. Іншыя, што яшчэ далей у якоесь сьвятое мейсца... А можа судзьдзі не паслухалі гэтага куртаценькага ды ціхачом і папёрлі Якуба ў катаргу. Пэўна, што так. Ды няма цяпер аб ім ні слыху, ні дыху.

**Дзед.** А Пранук — гэта сын гэтага забітага, Андрэя?

**Ігнат.** Але-ж. Ен самы!... Жонка Андрэява надта любіла свайго мужыка. Кажуць, пабачыўшы труп, звар‘яцела, у

вар'яцкую бальніцу пасадзілі. Засталася, значыцца, другая сіротка на сьвеце — сын іхні Пранук. Дык і гэтае дзіця людзі добрыя ўзялі ў вёску й гадавалі—Сымон сусед. Хлопец рос спрытны, да работы здатны і падобны з твару да свайго бацькі нябошчыка, як дзьве капелькі вады. Вось ён цяпер пасватаўся за Антоську. Сымоны таксама сваіх дзяцей ня маюць, усю гаспадарку маняцца аддаць Пранука. Ды справядліва! Бо-ж ён галоўны работнік.

(За сцэнаю пачынае пеяць хор).

**Дзед.** Вось якія справы на сьвеце!...

**Ігнат.** Але... Многа на сьвеце гора, бяды, але, дзякаваць Богу, і людзі добрыя ёсьцека... Ну, пойдзем у хату паглядзець, як моладзь весяліцца...

## ЗЬЯВА 7-ая.

**Пранук, Антося.** (пасьля паўзы выходзяць з хаты).

**Пранук.** Антося! сядзем тутака... (сядаюць на лаве). Ну, кажы-ж, што ты гэтакае хацела мне сказаць.

**Антося.** Дык неяк трудна...

**Пранук.** Ну, кажы-ж, залотца, сьмела.

**Антося.** Мой бацька,.. забойца... Ты ведаеш?

**Пранук.** Ведаю ўсё.

**Антося.** Ен... ох! (закрывае рукамі вочы й ціха плача).

**Пранук.** Даўно гэта было .. Бацькі свайго я не памятаю...

**Антося.** І я свайго не памятаю, ані мамкі... (кароткая пазўа). Пранусь! а ці ты ніколі крыўдзіць мяне дзеля гэтага ня будзеш? Ніколі слова благога ня скажаш?... Бо што-ж я вінавата! — Бацькі грэшныя былі.

**Пранук.** Дык як ты нават можаш думаць нешта гэтакае? Ды што ты? А крый-жа Божа! Ніколі!

**Антося.** І будзеш мяне заўсёды любіць так сама, як цяпер? Ніколі не разьлюбіш?

**Пранук.** Кінь пытацца! Ну, ведама, ты адна на ўсё жыцьцё...

(Устае, абыймае яе, вядзе на фронт сцэны й пяе).

Любіць цябе я ўсё жыцьцё буду,
ты мая зорка на ясным небе.
Цябе ніколі я не забуду,
як памятую аб будным хлебе.

Бо для мяне ты, мой матылёчак,
што вада рыбцы, што птушчы крыльлі,
як не пабачу тваіх я вочак,
робіцца мне сьвет увесь абрыдлы.

**Антося** (пяе).

Цяпер клянешся й прысягаеш,—

хочацца верыць, аднак баюся;
ці-ж ты ўзапраўды злосьці ня маеш,
што я дачкою збойцы завуся.

Цябе люблю я ўсею душою,
як любіць можа сэрца дзяўчыны,
не пагарджай-жа збойцы дачкою,
мой Пранусь мілы, мой ты адзіны!

(Абняўшыся выходзяць за правую кулісу).

ЗЬЯВА 8-ая.

**Ігнат, Кастуся, Хлопцы і Дзяўчаты** (выходзяць з хаты).

**Ігнат.** Ну, а цяпер падмацаваўшыся, ня шкодзіць і паскакаць... Ну, хлопцы! Барджэй хапайце дзяўчат ды сыпце лявоніху. Няўжо-ж я стары павінен вас гэтых штук вучыць?!... (Хлопцы і дзяўчаты скачуць. Пасьля скокаў разыходзяцца ў баковыя кулісы).

ЗЬЯВА 9-ая

**Ігнат, Кастуся, Якуб** (уваходзіць).

**Якуб** (стары ўжо, трасучыся; у рызьзі, апіраецца на кій). Пахвалёны!...

**Ігнат і Кастуся.** На векі.

**Якуб** (нясьмела). Ох, замарыўся!... Пазвольце, людзі добрыя, крыху супачыць...

**Ігнат.** А вось сядайце, лавы-ж не адкусіце... А скуль ды куды ідзяце́? чалавеча?

**Якуб** (горка і трохі няпрытомна сьмяеецца). Хэ-хэ-хэ!... Куды йду? — Наперад!... Хоць папаў у нерат, іду ўсё роўна наперад, пакуль ногі нясуць, пакуль дыхаюць грудзі, пакуль вочы глядзяць, рад-не-рад ня йду назад ніколі, брат!...

**Ігнат.** Чалавеча! Дзіўная ваша гутарка... Хто вы такі?

**Якуб.** Я—жывы труп—дзядзька Якуб... Быў калісь хват, як і ты брат, ды ад людзей, што зьвера зьлей, я ў лес уцёк.

**Кастуся.** Можа галодны, дзядзька? Можа-б зьеў чаго?

**Якуб.** Калі ўжо так ласкавы...

**Кастуся** (ідзе ў хату).

ЗЬЯВА 10-ая.

**Ігнат і Якуб.**

**Якуб.** Што гэта—вечарынка ў вас сягоньня?

**Ігнат.** Вось моладзь весяліцца... Суседаў Пранук пасватаўся да нашай Антосі...

**Якуб.** Ваша дачка?

**Ігнат.** Не, чужая. Сірата.

**Якуб**. Бацькі — што-ж? памерлі?

**Ігнат**. Многа казаць... Сірата... Маці памерла... Бацька бяздольны быў... Нажом аднаго зарэзаў... Узялі пад суд, пасьля недзе прапаў... Мусіць у катарзе згінуў. Клікалі яго — Якуб.

**Якуб** (быццам да сябе). Дачка... Антося...

**Ігнат**. Не дачка. Чужая, кажу, сірата. Бацька прапаў...

**Якуб** (таксама да сябе). Бацька прапаў, гора пазнаў... Дачка...

**Ігнат** (глядзіць на Якуба, дзівячыся). Што вы? Чаго вы?

**Якуб** (раптам). А бацьку ўспамінае? Ведае ўсё?

**Ігнат**. Як ня ведаць! Ведама, — ведае... ды ўспамінае... Раз нават мела свае грошы, прычапілася, каб закупіць імшу па баццы... Малілася...

**Якуб** (са сьлязамі ў вачох). Імшу за грэшную душу...

## ЗЬЯВА 11-ая.

**Ігнат, Якуб, Кастуся.**

**Кастуся** (уваходзіць з міскай і бутэлькаю). Вось... Пасілкуйцеся, дзядзька... Што Бог паслаў...

**Ігнат**. Выпіце чарачку, сіл наберацё.

**Якуб**. Ня трэба. Ня буду піць... Есьці не магу... Дзякуй вам. (Кароткая паўза. Ігнат і Кастуся глядзяць на яго з дзівам). Крыстына, значыцца, хутка памерла... А дачка... дачка ніколі бацьку не праклінала за загубленае матчынае жыцьцё?

**Ігнат**. Ды што вы! Куды ёй праклінаць! Ведама, што не. Ды чаго вы?..

**Якуб** (з аблягчэньнем). Не праклінала!...

**Ігнат**. Ці мне ў вачох марочыцца... (Да Кастусі). Кастуся! Глянь — гэта-ж... (Да Якуба). Чалавеча! хто ты?!

**Якуб** (памалу, ціха). Пазнаеш мяне, Ігнат?

**Ігнат** (з крыкам). Якуб!

**Якуб** Але... Гэта я, гэта я...

**Ігнат**. Як?.. скуль?.. Дзе быў.. гэтулькі часу!.. Божа-ж мой! (Да Кастусі). Бачыш, Кастуся! гэта Якуб... Ен — мой Якуб!...

**Якуб**. Сьмерць надыходзе... ведаю... Хацеў свае змучаныя старыя косьці злажыць у сваёй старонцы, няхай родная зямліца засыпае з неабсохшымі сьлязьмі мае вочы, хай рука сваяка кіне жменю пяску на дамавіну бязхатнага Якуба...

**Ігнат**. Я толькі прыглядаюся: знаёмы, незнаёмы... Дагэтуль яшчэ сваім вачом веры не даю... Думалі ўсе, што ты памёр... Ты-ж гэта, ці ня ты?

**Якуб**. І я, і ня я... Ужо ня гэты, што быў — о, не!.. Цяпер ужо глядзіць у выкапаную сабе магілу—жывы труп...

**Ігнат**. Ды кінь! вось ляпей хадзі ў хату, скінь гэтыя лахманы, апрані маю сьвітку... Можа памыцца хочаш?.. Кастуся! пашукай там у каморы якую сьвітку, ды іншае што, што патрэбна...

**Кастуся**. Зара... (Ідзе ў хату).

ЗЬЯВА 12-ая.

**Ігнат, Якуб.**

**Якуб**. Як добра мне, што каля мяне ізноў спагадлівыя б'юцца сэрцы, ізноў страха нада мною, а ня чорныя сосны шумяць...

**Ігнат**. Кажы, дзе быў?.. Што рабіў?...

Мэлёдрама.

**Якуб**. У пакутным мяху на плячох я поўз на каленях ад аднаго цудоўнага абразу Маткі Боскай да другога... На нагах раны парабіліся,—а ў душы не гаілася старая рана... Спавядаўся, крыжам ляжаў, біўся ў грудзі, а чарвяк сумленьня тачыў маё сэрца бязупынна... Ад катаргі звольнілі, а душа ў горшую катаргу папала. Кроў, кроў, кроў на маёй руцэ. Людзі глядзелі на мяне, як на здурэўшага, кідалі мне медзякі ў торбу... Я не глядзеў людзям у вочы: у душы ў мяне бура, уся душа мая трашчыць, ламаецца, як лес у віхорную ноч, а наўкола мяне спакойныя, жудасьліва спакойныя вочы!.. Я йшоў далей... усюды тое самае! Трэба было ўцякаць ад людзей... І ўцёк, як дзікі зьвер, калі пачуе за сабою пагоню, я ўцякаў.

І доўга ўжо я людзей ня бачыў, урыўшыся як крот у нару, у сваю зямлянку ў пушчы, і ня чуў ужо людзкога гоману, а толькі шум галін, скрып дрэваў, сьпеў птушак ды часам кліч удалёк якогась зьвера, ды заўсёды голас сваёй шумеўшай душы... Але ўрэшце гоман лесу заглушыў голас душы, і я ціха, добра, доўга жыў у маёй нары, ня бачучы нічога. Часам толькі якісь заблудзіўшыся пастух, пабачыўшы мяне, уцякаў як перад страхацьцём...

Але бывалі жудасныя часіны: як надыходзіла восень, жывы гоман лесу заціхаў, пачыналіся халодныя з дажджом ночы, ды сівер стагнаў паміж соснамі— страшна было мне ў маёй самотнасьці. Калі гальлё трашчала, а іншы раз дрэва-сталетак з карэньнямі вырывалася з зямлі — душа дрыжала, моў, перад судным днём...

Ды туга да людзей, да сваіх, да родных хат усё часьцей ды часьцей пачынала гаспадарыць у мяне ў душы, а якісь таёмны голас усё часьцей ды часьцей шаптаў, што жыцьця канец, што надыходзе сьмерць...

Сьмерць ідзе!..

Іншы раз здавалася мне, што вось-вось працягне да мяне сваю кастлявую руку, — і зубы мае ляскалі, як у трасцы, а капелькі халоднага поту каціліся па майму твару і расплываліся ў скалтунелай барадзе...

І вось пакінуў я сваю хату-зямлянку — сьведку доўгіх гадоў мукі, жудасных часін, бяссонных начэй — і пайшоў...

Я йшоў ды йшоў... І чымсь бліжэй была родная вёска, тым вялікшая агартала маё сэрца туга... Чым бліжэй, тым цяжэй было ісьці. Вярста здавалася мне міляю... Я баяўся, каб не памерці на дарозе, не дайшоўшы да сваіх. Раніцай, ледзь золак, прачнуўшыся ў гумне добрых людзей, або ў поле пад стогам сена, я з новымі сіламі рваўся ўсё ўперад, каб хутчэй пабачыць сваю хату, абняць роднае дзіця, ды каб свае людзі зачынілі мне вочы на вечны пакой...

(Паўза. Мэлёдрама канчаецца).

Прыйшоў... Баяўся, каб не пазналі, а пазнаўшы, каб не адвярнуліся. Ты першы пазнаў і не адвярнуўся...

(За сьцэнаю пачынае пяяць хор).

**Ігнат**. І ніхто не адвернецца! Вось наша моладзь ідзе.. Трэба паклікаць сюды Антосю...

**Якуб** (глядзіць у кулісу). Чакай!.. што гэта?.. Бач — ідзе! ідзе!...

**Ігнат**. Дык гэта наш, свой чалавек... Пранук... (кліча Гэй, Пранук, хадзі сюды!..

**Якуб**. Стой! Чакай! ня трэба! Ен... (Няпрытомна) ён — Андрэй!..

## ЗЬЯВА 13-ая.

**Ігнат, Якуб, Пранук** (уваходзіць), пасьля **хлопцы**.

**Пранук** (з правай кулісы). Чаго клікалі?

**Ігнат**. Хадзі бліжэй!.. Вось гэта...

**Якуб** (як вышэй). Ня трэба!.. ня трэба!.. не падыходзь!.. Ен... Андрэй!..

**Ігнат**. Што ты, Якуб?

**Якуб**. Ен, ён... не падыходзь!

**Пранук**. Хто гэта?

**Ігнат** (падыйшоўшы да Пранука). Гэта — Якуб. Падыйдзі да яго й даруй... Ен адпакутаваў...

**Якуб**. Ен!.. ён!.. не падыходзь!.. не падых!.. (Падае на зямлю).

(З куліс выбягае пара хлопцаў і памагаюць Ігнату ўнесьці Якуба ў хату).

## ЗЬЯВА 14-ая.

**Пранук, Антося** (уваходзяць).

**Антося** (да Пранука). Што тут здарылася?.. Хто гэта?..

**Пранук.** Твой Бацька!..

**Антося** (глядзіць праз момант на Пранука зьдзівіўшыся). Ах!.. (бяжыць у хату).

ЗЬЯВА 15-ая.

**Пранук** (адзін).

**Пранук** (застаецца наперадзі сцэны, задумаўшыся). Забойца майго бацькі...—Над нашым шчасьцем павісла хмара...

ЗЬЯВА 16-ая.

**Пранук, Антося.**

**Антося** (выбягае з хаты й затрымліваецца на парозе, засланіўшы сабе вочы рукамі). Ох, які страшны!.. (Пасьля, пабачыўшы сумнага Пранука, нясьмела падыходзіць да яго). Пранусь!.. (Доўга глядзяць сабе ў вочы). Ці ў нашым каханьні перашкод няма? Я люблю цябе больш жыцьця... А ты?

**Пранук.** Страшны прайшоў між намі цень!

ЗЬЯВА 17-ая.

**Пранук, Антося, Ігнат** (выходзяць з хаты). **Хлопцы** (з бакавых куліс).

Хор за сцэнаю далей ціха пяе.

**І-шы хлапец.** Што? забойца вярнуўся?

**2-гі хлапец.** Ізноў мо' будзе людзей са сьвету спаганяць.

**Ігнат** (сільна). Ціха! Яго судзіць ня нам! Ен ужо на іншым судзе.

**Хлопцы** (зьнімаюць шапкі і з пахіленымі галавамі ціха йдуць у хату).

**Антося.** Памёр!.. Пранусь! Даруй яму!...

**Пранук.** Цяпер... Дарую (Абымае яе, туліць да сябе й вядзе ў хату).

Заслона.

---

КАНЕЦ.



# Міхалка.

Камэдыя ў 1 дзеі.

З польскага перэрабілі **ДАЛЕЦКІЯ**.

---

**Асобы:**

ЯЗЭП КАРЫТА, шляхціць.
АДЭЛЯ, яго дачка.
ЮЛЬКА, пакаёўка.
МІХАЛКА БАГДАЛЕЎЧЫК.
ЗЬМІТРУК, хурман Карытаў.

Усё дзеецца на вёсцы ў Карыты
На сцэнэ — шляхоцкая сьвятліца.

## ЗЬЯВА 1-ая.

**Язэп,** пазьней **Адэля.**

**Язэп** (праз вакно). Адэля, Адэлічка, кінь паліваць кветкі.

**Адэля** (за сцэнаю). Трэба-ж папаліваць кветкі, бо зьвянуць, пасохнуць.

**Язэп.** Гэтак-та гэтак: моладасьць — блазнота, а усё кветкі, вецер па галаве лётаець; хадзі, Адэля, да мяне, калі кажуць.

**Адэля** (за сцэнаю). Зараз, татачка, зараз!

**Язэп**. Хадзі-ж, бо маю да цябе пільны інтэрас.

**Адэля** (за сцэнаю). А ўжо йду, татачка, йду.

**Язэп** (адзін). Прычакаў! З гэнымі паненкамі раданькі сабе ня дам. Адну дачку маю, а столькі клопатаў, што лепш мець капу сыноў. Пакуль ня трэ' было замуж, то яшчэ сяк-так было. А цяпер прыйшла пара аддаваць, і вось, дзякуючы ласцы Боскай, аддаю яе замуж ужо дваццаць гадоў! Усё неяк так выходзіць: ці той малец ёй па сэрцу ня будзець, ці ён яе не ўпадабаець. Ужо думаў, што маё дзіцятка Адэлічка й састарыцца ў дзеўках, ажно падкруціўся дзяцюк і не абы які!... Каб хаця ўпадабала яго мая Адэлічка!...

## ЗЬЯВА 2-ая.

**Язэп і Адэля.**

**Адэля** (прыбягаець з палівачкаю ў руках, у саламяным капялюшы). Прыйшла, татачка, да вас! Што вам трэба?

**Язэп**. Сядай, Адэлічка! Ці згадаеш, галубачка, аб чым буду з табою гаварыць?

**Адэля.** Не згадаю, татачка!

**Язэп.** Няўжо-ж не згадаеш?

**Адэля.** Дальбог не!

**Язэп.** Праўда, то-ж я табе нічога й не казаў. Як бы

pubuczny az do odwołania. L. 65/v. dn. 4.1 r. 1928.
B. Aleksandrowicz. Za Komisarza Rządu na/m. Wilno",

гэта табе вытлумачыць? Бо-ж яно паненцы трудна сказаць, не зразумеець.

**Адэля**. Татанька, гэта нешта дужа цікавае?

**Язэп** (цалуе яе). Толькі-ж ня пужайся, мая ты зязюлька!

**Адэля**. Надта-ж ужо зацікавілася я!

**Язэп**. Бачыш, мая дачушка, табе ўжо 38 гадоў...

**Адэля**. Толькі што пайшоў трыццаць дзевяты.

**Язэп** (перапыняе яе й гаворыць далей). Гэта самая пара выйсьці замуж. Ці ня так?

**Адэля**. Выбачайце, татанька...

**Язэп**. Знаю я вас: быццам і ня хочуць, а за вачыма аж пішчаць да хлопцаў. Шэльмы!

**Адэля** (круціць фартушок). Татанька, кіньце...

**Язэп**. Не перапыняю! Пара ўжо выйсьці з дзевак!

**Адэля**. Нікога я яшчэ не палюбіла.

**Язэп**. Праўда! Бо й перабіраеш ты, Адэлічка! Но, гэта цяпер ўсё роўна; што было, то было, а цяпер мая рада: не задзірай носу, бо малец — шчырае золата!

**Адэля** (з радасьцю). Ці прысылаў хто ў сваты?

**Язэп**. А, жэўжык, такі трапечацца тваё сэрца, дрыжыць...

**Адэля**. Кінь, татанька, сьмяяцца з мяне. Але хто сватаецца?

**Язэп**. Сын майго добрага прыяцеля. Даўно я яго ня бачыў.

**Адэля** (плешча ў далоні). А які-ж ён?

**Язэп**. Цікавасьць!?

**Адэля**. Татанька, так які-ж ён?

**Язэп**. Ня ведаю сам, бо сына ніколі ў вочы ня бачыў. Калі ў бацьку ўдаўся, будзе зух, добры, ўдалы малец. З гэтага лісту даведаешся ўсю драбязу. Пачытай яго ў голас, то і я прыпомню сабе ўсё, аб чым ён пісаў.

**Адэля** (бярэ пісьмо). Так гэта значыць ліст ад таго, хто сватаецца да мяне! (Прыціскае да сэрца ліст).

**Язэп**. Гэта-ж пісьмо не ад яго, а ад ягонага бацькі... Чытай-жа!

**Адэля** (чытаець). „Браток мой дарагенькі і дабрадзей! Ня бачыў я цябе гадоў з дваццаць“...

**Язэп**. Пачакай... (Лічыць на пальцах). Але, праўда, як гэтыя гады праляцелі! Як сягоньня помню, калі ты радзілася...

**Адэля** (чытае ў голас). „Часам даводзілася чуць мне, што табе ўсё добра ручыць, і мне, дзякую Богу, не найгорш ідзе. Назьбіраў трохі грошаў і ўсё было-б добра, каб ня сын: хачу яго ажаніць, а ён малец-гультай, з печы ня злазіць“...

**Язэп**. Но, но, чытай далей.

**Адэля**. — „Аж тут даведаўся, што ў цябе дачка падрастае, ды навет адзін мой сваяк дужа яе хваліць. Кажуць, ёй ужо мінула 18 гадоў“... (Задзівілася).

**Язэп**. Но, чаго-ж задзівілася? То-ж даўно табе мінула 18 гадоў.

**Адэля.** А няўжо-ж — мінула!

**Язэп.** Ну, дык чаго-ж вочы лупіш? Чытай далей!

**Адэла** (чытае). „Спадзяюся, што твая дачка ўпадабае яго, бо малец, як шкло, як ядроная рэпа. А цяпер цалую з усяго сэрца й цябе, й маю спадзяваную нявестку“. Як шкло! Чаму-ж, татанька, раней не паказаў мне гэнага лісту?

**Язэп.** Бо хацеў уцешыць цябе неспадзеўкі, а даўжэй хаваць сакрэту ня мог. Восека — прышла тэлеграма, што сягоньня прыедзе той Міхалка.

**Адэля.** Зараз прыедзець?! Трэба-ж прыбрацца! Юлька! Юлька!

**Язэп.** Во гарачая. Адэлічка, пачакай, пасьпееш!

**Адэля.** Але, татулька, зрабіце мне адну ласку!

**Язэп.** Якую, мая зязюлька?

**Адэля** (круціць фартух). Не кажэце, татачка, колькі мне гадоў.

**Язэп.** Чаму-ж гэта?

**Адэля.** Бо паненкі ніколі ня кажуць, колькі ім гадоў.

**Язэп.** Ужо гэтага не зраблю. Каб ты была старая, то другая справа. Але 38 гадоў... што гэта значыць!... Майму бацьку было як жаніўся 55 гадоў, а матцы 45, і жылі яны з сабою ў добрым шчасьці.

**Адэля.** Але бачыш, татачка, ён крышку малодшы за мяне.

**Язэп.** Э!... два — тры гады, што гэта значыць, а лгаць, я ня лгаў і ня буду.

**Адэля** (да сябе). Што тут зрабіць? Ага! ведаю! Калі ён запытаець, колькі мне гадоў, скажэце, што мне мінула 25 — гэта-ж шчырая праўда.

**Язэп.** А не абыдзецца бяз гэтага?

**Адэля.** Не абыдзецца!

**Язэп.** Но, то ўжо для цябе зраблю гэтак.

**Адэля.** Гэта праўда? Пабажэцеся!

**Язэп.** Да душы! Каб мне так сонца ня ўбачыць!

### ЗЬЯВА 3-ая.

**Тыя самыя**, уваходзіць **Юлька**.

**Юлька.** Паны, нейкі незнаёмы чалавек прыехаў.

**Адэля.** Да каго ён падобны?

**Юлька.** З вялікім носам, з лупатымі губамі...

**Адэля.** Ужо сэрца маё чуець, што гэта ён — трэба хуценька перэапрунуцца. (Бяжыць вон).

**Язэп.** Гэта пэўна ён, а я не абуўся, не памыўся. Грышка, Іванка — каб вашы ногі вецер калыхаў — сурдут, боты, жыва, блазны! (Ідзе у свой пакой).

### ЗЬЯВА 6-ая.

**Юлька** адна.

**Юлька.** Гэта ён! Што за ён, які ён? Нейкі малец з вялі-

кім носам... І сьмешны... Дзякуй Богу, што хоць такі прыехаў. Усё-ж такі навіна, а то можна памерці з нуды. Жыць такому маладому дзяўчаці, як я, між гэтых трухлявых грыбоў, ня бачыць нікога, апроч пахтара й мужыкоў, то ўжо лепш памерці. Я ўжо пабажылася: калі выраблюса адгэтуль, то ні за якія грошы не пайду на службу ў вёску. Толькі Бог адзін ведае, калі гэта будзе. (Падходзіць да люстра). Трэба прычасацца. Няхай гэты гарадзкі паніч пазнаець, што й я гарадзкая, не якаясь вясковая.

ЗЬЯВА 5-ая.

**Юлька й Міхась.**

**Міхалка** (уваходзіць, азіраецца па сьвятліцы). З сярэдзіны нічога сабе паказываець, зато з надворку адно сабачая буда. Хлявы — яшчэ нічога, а бровар зусім пакрывіўся. Але як пападзець гэта ўсё ў мае рукі — ўсё наладзім. (Азіраецца па хаце). Прыбрана хата нічога, нічога сабе, толькі ніхто мяне ня сустрэў. Пагляджуся я ў люстра, бо з дарогі чалавек да сябе не падобны. (Падходзіць да лавы, дзе сядзіць Юлька. Юлька толькі тады ўбачыла яго).

**Юлька.** Ах, Божанька!

**Міхалка.** Ой, што гэта? (Зачапіў зэдлік і перэвярнуўся).

**Юлька** (засароміўшыся). Ой, спалохалася!

**Міхалка.** І я сам спудзіўся.

**Юлька.** Вы мусіць да пана Карыты?

**Міхалка** (да сябе). Ня йначай—дачка. (Сьмяецца). Ня гэтулькі да пана Карыты, колькі да яго дачкі. (Да сябе). Удалося мне. Мусіць спадабала мяне, бо нічога не гаворыць.

**Юлька.** Зараз і яны прыдуць!

**Міхалка** (да сябе). Неяк і язык не варушыцца.

**Юлька.** Зрабеце ласку, сядайце!

**Міхалка**. Дзякую! Насядзеўся я на каламашцы. (Да сяб е). Гарная дзяўчына! (У голас). Вы, паненачка, мусіць ня ведаеце, хто я такі?

**Юлька**. А праўда ня ведаю. (Да сябе). Далікатны чалавек і кажаць да мяне „паненка“.

**Міхалка.** То-ж я Міхась Багдалеўчык.

**Юлька** (скланіўшыся). Дужа рада пазнаць вас.

**Міхалка.** А ведаеце, чаго я сюды прыехаў?

**Юлька.** Не, ня ведаю. (Да сябе). Чаго ён хоча?

**Міхалка.** То вы ня чыталі пісьма майго бацькі?

**Юлька** (вырабляючыся). Не, тутака на вёсцы няма чаго чытаць...

**Міхалка.** Але-ж вы можаце чытаць?

**Юлька.** Ведама! — толькі тут на вёсцы...

**Міхалка.** То мусіць паненка й ня ведае, што я прыехаў сюды ў сваты?

**Юлька.** І ня чула аб тым.

**Міхалка** (да сябе). Я думаў прыехаць сюды на гатовае, аж тут яшчэ трэба круціцца каля яе. (Памаўчаўшы). Паненцы даводзілася бываць у горадзе?

**Юлька**. Я жыла цэлы год у Менску.

**Міхалка.** А гэта вялікі горад? Большы за наш Слуцак?

**Юлька.** А вы ніколі ня былі ў Менску?

**Міхалка**. Ехаў раз у Менск з коньмі на кірмаш. Коні ў мяне на дарозе ўкралі ды вярнуўся дамоў, не пабачыўшы Менска.

**Юлька**. Шкода!

**Міхалка.** І ўсё мне хочацца паехаць у Менск.

**Юлька.** І мне хочацца туды! (Уздыхаючы).

**Міхалка** (да сябе). Уздыхнула! Упадабала мяне (У голас). Як ажанюся, паедзем у Менск.

**Юлька.** Што! Возьмеце й мяне з сабою?!

**Міхалка.** Ведама!... як мне там жыць бяз вас? То-ж я ня ведаў-бы, куды павярнуцца.

**Юлька.** Э!... маніцё!...

**Міхалка**. Дальбог, праўда! Не маню!

**Юлька**. А што панскі бацька скажа на гэта?

**Міхалка.** Цяпер тата ня пускаець мяне ў Менск, але як ажанюся, буду жыць пасвойму.

**Юлька**. Я вам шчыра падзякую!

**Міхалка**. Пабачыце, паненька... там будзе у нас жыцьцё...

**Юлька** (засароміўшыся). Што вы кажаце?

**Міхалка.** Я не сьмяюся! Тата сыпне нам грошы. (Цмок яе ў руку).

**Юлька.** Што вы робіце?

**Міхалка** (да сябе). Агонь, не дзяўчына! Дальбог!

**Юлька.** Пусьцеце мяне, мне трэба йсьці!

**Міхалка.** Дайце яшчэ ручку!

**Юлька.** Бывайце здаровы! (Бяжыць).

### ЗЬЯВА 6-ая.

**Міхалка** (адзін).

**Міхалка.** Вось так дзяўчына!.. з ёю пагаварыць можна. Дасюль, бывала, кожная паненка так саб'е мяне з панталыку, што й разьзяўлюся, і слова ня вымаўлю. Мусіць толькі добра яна мяне ўпадабала, калі мы так з ёю спазналіся. Эх, тут скоранька спраўлюся, аж тата задзівіцца! А гаварыў ён мне, калі я ехаў (азіраецца): „Помні, бараньня галава, каб бяз жонкі не варочаўся, бо калі шосты гарбуз да хаты прывязеш (пяць ужо прывёз), то ўсыплю табе (азіраецца) пяцьдзесят бізуноў, ды памрэш старым мальцам“; і яшчэ гаварыў: „Глядзі, каб ня была лішне маладая і старой не бяры, бо захоча нас вадзіць за нос“. Ажно тут папалася паненка ў самую меру, толькі суседзі будуць глядзець і аблізвацца гледзячы!

### ЗЬЯВА 7-ая.

**Міхась і Язэп.**

**Язэп.** Ха! ха! адразу згадаў, хто ты: такі твар, такі нос — чысты бацькаўскі нос.

**Міхалка.** Ня йначай Язэп Карыта!

**Язэп**. Так, дзетачка, так! Але як-жа-ж ты сюды прыехаў, Міхаська?

**Міхалка**. Дык як? на каламашцы, паночку!

**Язэп.** Ды я не аб тое кажу. Ты зьявіўся да нас усё роўна як з дажджом, і ніхто цябе ня бачыў уваходзячы.

**Міхалка.** Чаму ніхто? То-ж я й гаварыў з васпанавай дачкою.

**Язэп**. Гаварыў ужо? Зух, удалы малец! Толькі парог пераступіў, ужо дзяўчатам галаву дурыць.

**Міхалка** (зухуючысь). Го, паночку! да мяне бабы як мухі да мёду... Я, паночку, раз у Слуцку...

**Язэп.** Э, што было ў Слуцку, то было. Ты кажы, як упадабаў Адэльку.

**Міхалка**. Дужа ўпадабаў!

**Язэп.** Пацешыў мяне! Удалая дзяўчына, даліпан?

**Міхалка.** Удалая! Даліпан! Упадабаў яе за тое, што не такая язычлівая, як другія дзяўчаты, што зараз з чалавека кпіны строяць.

**Язэп.** А ты-ж ня ўмееш сам каля дзяўчат хадзіць?

**Міхалка.** Ня дужа добра, бо дасюль найбольш каля быдла хадзіў.

**Язэп**. Вось і ў спомніў, як твой бацька дваццаць гадоў таму прыслужыўся мне...

**Міхалка**. А ведаю, ведаю; бацька аб гэтым расказвае, калі толькі пару знайдзе.

**Язэп.** Падумай сябе — гнаў я валы на кірмаш у Вільню, аж тут як ухопіць мяне хвароба у Стоўпцах—ні рукою ні нагою! З валамі некуды дзецца, не стаяць-жа з імі у Стоўпцах, а паслаць з імі няма чалавека. Аж но, скуль ні вазьміся — твой бацька. Я яго яшчэ й ня знаў. Ен пагнаў валы ў Вільню. (Ласкава). Як пагляджу я на цябе, то усё гэтыя валы прыпамінаю. (Абнімаюцца). Рад я дужа, што табе сталыя жанчыны да ўпадобы.

**Міхалка** Отож-то, ня люблю я такіх паненак, што вечна рагочуць, зубы выскальваюць.

**Язэп.** І я таксама. Я люблю бабу, калі ёй паўкапы стукнець. Тады яна не блазьніца, розум маець!...

**Міхалка.** А колькі-ж панавай дачцэ гадоў?

**Язэп** (папярхнуўшыся). Ей гадоў... мінула 23...

**Міхалка.** Вось так штука!... Ніколі не падумаў-бы!

**Язэп.** А мінула, мінула ужо!

**Міхалка.** А я думаў, што ёй ня больш за 18 гадоў.

**Язэп.** Отож-то. З вока не дасі ёй больш. Што-ж дзіўцца — маладая, рухавая. О, будзе твая жонка як гарэх! А што пачцівая, за гэта я галаву аддам.

**Міхалка.** Дам веры!

**Язэп** (ідзе да дзьвярэй Адэльчынай станцыі). Адэлька, хадзі жыва! Пан Міхал чакаець цябе, не дажджэцца. (Да Міхалка). Янка зараз прыдзець. А ты мусіць і ня сьнедаўшы... а?... кажы праўду?

**Міхалка**. Праўда, ня сьнедаўшы.

**Язэп.** І чалавек з цябе, Міхась, сядзіш і нічога ня кажаш, што галодны. Зараз дамо пасьнедаць (Ідзець у правыя дзьверы).

**Міхалка** (адзін). Аж у вушох бурчыць, столькі нагаварыў. Ага, нехта йдзе... Нейкая старая кабета, ня йначай цётка пана Язэпавай дачкі.

## ЗЬЯВА 8-ая.

Уваходзіць **Адэля. Міхалка** прэцца да яе, цалуець у руку.

**Адэля** (да сябе). Які шпаркі! (У голас). Вы мусіць прысталі з дарогі?

**Міхалка.** Не, дзякую вам, спаў усю дарогу.

**Адэля.** Як-жаж вы ўпадабалі нашу старонку?

**Міхалка.** Дужа ўпадабаў. Асабліва бульба важная.

**Адэля.** А то-ж вы тутака казалі, што спалі ўсю дарогу?

**Міхалка** (засароміўшыся). Гэта бачыце, праўда, але хвурман разбудзіў мяне бульбу паглядзець.

**Адэля.** То з вас, мусіць, заядлы гаспадар! Сядайце, будзьце ласкавы!

**Міхалка.** Дзякую вам, пані дабрадзейка. (Сеў здалёк)

**Адэля** (Строючы міну). Сядайце бліжэй!

**Міхалка.** Дзякую, мне й тут добра!

**Адэля.** Я-ж вас прашу!

**Міхалка.** Дзякую! (Сядае пры ёй на лаве).

**Адэля.** Ці добра здароў ваш бацька.

**Міхалка.** Дзякую, пані дабрадзейка. (Цмок у руку). Добра, толькі дужа многа есьць.

**Адэля** (да сябе). Маладзенькі! Нічога не разумеець. (У голас). Але-ж гэта ня шкодзіць!

**Міхалка.** Не, ня шкодзіць, бо-ж і мае за што добра есьці.

## ЗЬЯВА 9-ая

**Тыя самыя, Язэп** (Хлапец нясе сьнеданьне).

**Язэп.** Ага! папаліся! Варкуеце, сеўшы адзін пры адным ла лаве. (Да Міхася). Ах ты баламут!

**Адэля.** Да душы, брыдка!

**Язэп.** Міхалка!.. адразу на лаву й рамансуець!.. ці ня так?

**Міхалка** (задзівіўся). Што вы, паночку, я-ж нічога...

**Язэп.** Сядзі ціха! Я-ж гэта люблю, я-ж люблю, калі кавалер умеець дурыць галаву дзяўчатам.

**Міхалка.** Што вы, паночку! я-ж, дальбог, нічога!,..

**Язэп.** Ня вырабішся!.. Сядай сьнедаць. У нас гавораць: Высьпіся, наясіся, а тады гавары.

**Адэля.** Просім сядаць. (Міхалка хоча сесьці з канца. Язэп садзіць яго пры Адэлі).

**Язэп.** Сядайце разам, адзін пры адным!

**Міхалка.** Калі тутака скразьнік, я сяду гэтак, напроціў. (Сядае проціў Адэлі).

**Язэп** (паціху). Ага!.. жэўжык, хочаш сядзець напроціў, каб ляпей было тэляграмы пасылаць.

**Міхалка**. Я ніколі тэляграмы не пасылаю сьнедаючы.

**Язэп**. А калі-ж?

**Міхалка**. Найчасьцей увечар, дабрадзею!

**Язэп**. Ну й жэўжык ты, скажу яшчэ раз, Міхалка! Увечары, кажаш, зьмеркам?..

**Міхалка**. Не, паночку, не папоцемку, пры агні.

**Язэп**. Пры агні, пры агні! Хай цябе качалка, а то-ж зух малец, што скажа, то сьмех — чысты бацька!

**Адэля** (да сябе). Штукар малец. (Да Міхалка). Ешце-ж больш на здароўе!

**Міхалка**. Дзякую вам! (Да сябе). Што яны лапочуць?

**Язэп**. Еш, Міхаська! Што гэта? няўжо-ж з каханьня й есьці ня хочаш?

**Адэля** (скромна). То пан Міхал закахаўшыся.

**Язэп**. Што?! Увяз у каханьні па самыя вушы?

**Міхалка** (засароміўшыся). Што вы?!.. Што вы?!..

**Язэп**. Ага!.. пачырванеў! Ня вырабішся цяпер! Ну й штукар ты!

**Адэля**. Яшчэ, будзьце ласкавы, для мяне зрабеце гэта.

**Міхалка**. Дзякую! ня здолаю больш.

**Язэп**. Ці бачыш? глядзіць у тваю талерку. Знаю я гэтыя жарты ды гулі-каханьня. Ведаеш што, Адэлічка? падсунь яму кусок з сваей талеркі.

**Адэля**. Калі ня важуся, татанька!

**Язэп**. Калі любіш мяне, зрабі гэтак. Глянь у яго вочы, аж гарацъ.

**Адэля** (засароміўшыся, падае сваю талерку). Вазьмеце!

**Міхалка**. Дальбог, не магу!

**Язэп**. Ага, ён хоча, каб ты сваею рукою дала яму кавалак проста ў зубы. Зрабі гэтак, зязюлька!

**Адэля**. Калі стыдаюся!

**Язэп**. Ня стыдайся! Вось гэтак! (Адэля бярэ на вілцы кавалак мяся; Міхась, нічога не разумеючы, лупіць вочы на яе).

**Адэля**. Вазьмеце!

**Міхалка**. Дзякую!

**Язэп**. Разьзяўляйся барджэй. (Міхась разьзявіўся). Зацьмякай-жа цяпер! Так, мае галубочкі, кахайцеся! Я стары пайду адсюль, бо дзе двое—там рада, дзе трое—там здрада. Вы маладыя, лепш уладзіцеся самі. Зух малец, няхай яго маланка! (Выходзіць са сьмехам).

## ЗЬЯВА 10-ая.

**Адэля** (ўстае ад стала). **Міхалка** (сядзіць пры стале як калода).

**Міхалка** (да сябе). Што гэтаму старому сталася? Чаго гэта ён так выляцеў. Чаго нас адных пакінуў? Няўжо-ж нам удваіх скончыць гэту пячонку?

**Адэля** (да сябе). Сядзіць пры стале, то дурны. (Кашляе).

**Міхалка** (да сябе). Сухоты яе душаць, ці што.

**Адэля** (да сябе). Трэба пачаць гутарку. (У голас). Вось і асталіся адны...

**Міхалка** (ўстае). Пані дабрадзейка, я пайду адсюль, калі вам патрэба.

**Адэля**. Чаго-ж вы?—заставайцеся. Адно толькі паненцы няпрыгожа заставацца аднэй самой з кавалерам...

**Міхалка**. А якая-ж тут паненка ў пакоі?

**Адэля** (да сябе). Што ён гаворыць? (Да Міхалка). Што вы гэта мяне ня бачыце?

**Міхалка**. Бачу, бачу вас, пані дабрадзейка, я-ж, дзякуй Богу, не сьляпы.

**Адэля**. Чаму гэта вы да мяне гаворыце: „пані дабрадзейка“.

**Міхалка**. Як-то?!. Як-то чаму? З пашаны.

## ЗЬЯВА 11-ая.

**Юлька** (уваходзіць, стаіць здалёк).

**Адэля**. Няўжо-ж вы ня маеце для мяне больш нічога, апроч пашаны?!

**Міхалка** (да сябе). Гасьцінца хоча. (У голас). Я-ж ня з кірмашу еду.

**Адэля**. Ой, гэта кепскія жарты!

**Міхалка**. Кепскія жарты?

**Адэля**. Каб мой тата быў тут, даў-бы вам за гэта.

**Міхалка**. Ваш тата? То ваш тата яшчэ жыў?

**Адэля** (зазлаваўшы). Ну, гэта ўжо лішнія жарты!

**Юлька** (да сябе). Ен ня ведае, што гэта пана Язэпава дачка.

**Міхалка**. Выбачайце, пані дабрадзейка, але я ня ведаю, чаго вы сварыцеся?

**Адэля**. Ня ведаеце?

**Міхалка**. Ваш бацька мусіць дужа стары чалавек?

**Юлька** (ціха да Міхалка). Перастаньце, гэта-ж дачка пана Язэпа.

**Міхалка**. Ці-ж праўда?

**Адэля** (са злосьцю). Дось ужо гэтых жартаў, што вы строілі сьнедаючы, але гэтыя ўжо цераз меру кепскія! (Выходзіць).

## ЗЬЯВА 12-ая.

**Міхалка і Юлька.**

**Міхалка**. Так гэта дачка пана Язэпа?! А я думаў, што гэта ваша цётка.

**Юлька**. У самую пару перэсьцярэгла я вас.

**Міхалка**. Дзякую вам сардэчна! Толькі цяпер сьцяміў я: то-ж пан Язэп гвалтам сватаў мне яе за сьнеданьнем.

**Юлька**. То-ж вы й дзеля гэтага прыехалі сюды.

**Міхалка**. Ведама, але-ж не дзеля старой дачкі, калі ёсьць меншая й харашэйшая. (Кланяецца Юльцы).

**Юлька**. А то-ж у пана Язэпа адна дачка.

**Міхалка** (задзівіўся). Адна. А хто-ж вы будзеце?

**Юлька.** Я Юлька, тутэйшая пакаёўка.

**Міхалка.** Па-ка-ёў-ка?...

**Юлька.** Але, пакаёўка.

**Міхалка.** Чаму-ж вы мне гэтага раней не сказалі?

**Юлька.** Я ня думала, што вы палічыце мяне за панскую дачку.

**Міхалка** (ў перапузе). Ой-ой! то-ж цяпер мне трэба жаніцца з гэтаю старою кабылаю.

**Юлька.** А ўжо так выходзіць.

**Міхалка.** А колькі-ж ёй гадоў?

**Юлька.** Ня ведаю.

**Міхалка.** От так жонку прывязу да хаты!

**Юлька.** Чаго-ж зажурыўся? То-ж вам няма ніякай прынукі з ею жаніцца.

**Міхалка.** Як не? То-ж калі бацька ня дасьць веры, што яна была старшая за мяне, то мне будзе так... (Паказвае ў паветры, як сьцёбаюць).

**Юлька.** Ня выдайце мяне, то я вам дам раду.

**Міхалка.** Праўда?! За гэта я завязу цябе ў Менск, што ты так упадабала.

**Юлька.** Добра! Будзьце так добрай мысьлі, а тымчасам бывайце здароў, нехта йдзе. (Бяжыць).

## З Ь Я В А 13-ая.

### Міхалка, Язэп і Адэля.

**Язэп** (пачынае за сцэнаю). Супакойся, Адэлічка, гэта былі толькі жарты!...

**Міхалка.** Ой, аж з душы прэць! (Стаіць збоку).

**Язэп.** Хто любіцца, той чубіцца,—гэта ўжо старая прыказка. (Цягне яе гвалтам).

**Адэля.** Я гэтага ніколі не забудуся!

**Язэп.** От, знайшла аб чым думаць. (Угледзіўшы Міхася). Глянь, стаіць як авечка, чуець, што лішне сабе пазволіў, але як ажэніцца з табою, паправіцца. Ці-ж ня так, Міхалка?

**Міхалка.** Праўда, пане! (Да сабе). А Юльці няма!

**Язэп.** Ня гневайцеся-ж ужо, загаварыце адзін да аднаго.

**Адэля** (апусьціўшы вочы). Я ўжо выбачаю.

**Язэп.** А ты, Міхась, прасі выбачыць, скажы-ж, што нічога дрэннага не зрабіў, от жарты як у маладых, прасі-ж выбачыць.

**Міхалка.** Прашу выбачыць, панна Адэля!

**Язэп.** Цяпер ладна! Пацалуйцеся добра. (Цягнець Міхалку). Хадзі, не спрачайся: жарты строіць умеець, а цалавацца стыдаецца.

**Міхалка.** Дальбог не!

**Адэля.** Што вы, тата, робіцце?!

**Язэп.** Гэта ўжо маё дзела. Ну, пачынайце, я стану задам, ня буду глядзець. Ужо?

**Міхалка.** (да сябе). Дальбог не магу.

**Язэп.** Ужо?!

**Адэля.** Ня так скора, нам жа сорамна.

**Язэп.** Ужо не сьцярплю чакаць. (Міхалка й Адэля цалуюцца).

**Міхалка.** (Убок). Цьфу!

**Язэп.** Гэтак то люблю. Цяпер можаце усё роўна, як па запоінах сабе казаць: „ты“, проста. (Убачыўшы, што няма Адэлі). Ага! уцякла, засаромілася зязюлька.

**Міхалка.** Няхай яе немач, такую зязюльку!

**Язэп.** А што, Міхалка, соладка было цалаваць?

**Міхалка.** Здаецца, крышку трухою пахнець.

**Язэп.** Што? Мая дачка трухою пахнець!

**Міхалка.** Да не дачка, пячэньне.

**Язэп.** Так ты і зразу гавары, а то я хацеў ужо злаваць.

**Міхалка** (да сабе). Паспытаем яшчэ апошнюю раду. (У голас). Які пан пасаг дасі за дачкою?

**Язэп.** Ага! хоча канчаць, упадабаў маю Адэльку.

**Міхалка.** І гэта праўда. Ды й бацька наказваў мне, каб не жаніўся без пасягу пяць тысячаў.

**Язэп.** Ня бойся, Адэльцы дам пад падушку дзесяць тысячаў.

**Міхалка** (да сябе). Няма ўжо ратунку!

**Язэп.** Уцешыўся, а я табе яшчэ скажу: з унукамі гультаваць ня будзеце, то яшчэ накіну.

**Міхалка** (з апошніх сіл). Што воліце: дачку, ці дзесяць тысячаў.

**Язэп.** Не згадаю, нашто табе гэта патрэбна ведаць, але калі прыдзецца выбіраць, то-ж ляпей дачка, чым дзесяць тысячаў.

**Міхалка.** А маркотна вам будзець без дачкі?

**Язэп.** Што-ж рабіць, прывык я да гэтай шчэбятухі, але ўжо нічога ня зробіш.

**Міхалка.** Чаму нічога! Дайце мне дзесяць тысячаў, а я вам пакіну дачку.

**Язэп.** Ха! ха! ха! Табе усё жарты ў галаве, а каб я цяпер прыстаў да цябе... аддай Адэльцю, то ты бы яе й за мільён не аддаў. Раскажу я ёй усё, вось будзе сьмеху, ха, ха, ха!!

**Міхалка** (адзін). Якія-ж тут сьмешкі, якія-ж тут жарты? Я ўсё гэта зрабіў-бы за дарма, каб не баяўся бацькі: няхай тата даведаецца, што вырабілася ад мяне паненка на дзесяць тысячаў пасагу, то жыцьця мне ў хаце ня будзе... А гэта Юлька дурыла галаву, што паможа мне — не яе гэта сіла, смачны жабе гарэх, ды зубоў Бог ня даў. Ось Юльцю ўзяў-бы за жонку, каб не баяўся бацькі... Чаму-ж гэта не яна дачка пана Язэпа...

## ЗЬЯВА 14-ая.

**Міхалка і Юлька.**

**Юлька** (ўваходзіць; ціханька да сябе). Стаіць зязюлёк маркотны й ня ведае, што я для яго раду маю.

**Міхалка** (ўбачыўшы Юльку). Прышла-ж такі? Ты-ж гаварыла, што мне паможаш, ажно я блізка, што пасьля запоін.

**Юлька.** Ужо? якім парадкам?

**Міхалка.** Прыпёр мяне пацалаваць яе, цьфу!

**Юлька.** Ну і што?

**Міхалка.** Ну й пацалаваў.

**Юлька.** Смачна было?

**Міхалка.** Ей то смачна было, аж аблізалася.

**Юлька.** Куды-ж вы яе пацалавалі?

**Міхалка.** Ну куды-ж — у лупы.

**Юлька.** А што-ж яна?

**Міхалка.** От, быццам засаромілася ды ўцякла.

**Юлька.** А калі-ж вясельле?

**Міхалка** (ў перапузе). О, ей! Няўжо-ж мне трэба жаніцца, няўжо-ж няма ўжо ратунку!

**Юлька.** А што-ж, калі пацалавалі, то па закону, значыць, па праву, ўсё прапала.

**Міхалка.** І што-ж мне было рабіць. Сама яна выставілася, а бацька стаяў нада мною, як чорт над грэшнаю душою.

**Юлька.** Ну і чаго-ж замаркоціліся? будзе ў вас жонка, гаспадарка...

**Міхалка.** Няхай яно прападзець, з гэтакай гаспадаркаю. (Соладка). А ты Юлька, будзеш у нас служыць за пакаёўку?

**Юлька** (шчырыць зубы). Абы паны мяне захацелі...

**Міхалка** (падсоваючыся да Юлькі). Мусіш служыць у нас, нам будзе весялей.

**Юлька.** А мне здаецца, што з гэтага нічога ня будзе.

**Міхалка.** Чаму так?

**Юлька.** Бо вы не ажэніцеся з маею паненкаю.

**Міхалка.** Ага, не ажанюся!

**Юлька.** Я-ж вас выратую.

**Міхалка.** Як? як?

**Юлька.** То-ж вы казалі: вашаму бацьцы трэба даведацца, што панна Адэля старэйшая за вас.

**Міхалка.** Гэта праўда, але што далей?

**Юлька.** А калі вы яго перэканаеце?!.

**Міхалка.** Чым-жа яго перэканаць?

**Юлька.** Мэтрыкаю!

**Міхалка.** Але мэтрыку трэба мець у руках, а лягчэй вырваць з зямлі дуб-сталетак, чым мэтрыку ў старой панны.

**Юлька.** А што будзе, калі я дастану?

**Міхалка** (ў радасьці). Што ты! толькі без жартаў, бо я чуць ня плачу ад радасьці!

**Юлька** (паказвае паперу). Праўда, мэтрыка. (Чытае). Радзілася ў 1889 годзе... Ей 38 гадоў. Хадзі, Юлька, пацалую, адплачуся я табе, завязу цябе ў Менск.

**Юлька.** Толькі-ж не кажэце, што мэтрыку я дастала!

**Міхалка.** Добра, добра!.. 38 гадоў... Добрая рэч гэтыя мэтрыкі!

### ЗЬЯВА 15-ая.

**Тыя самыя. Язэп.** (Уваходзіць і чуе апошнія словы).

**Язэп.** Якія мэтрыкі? аб якіх мэтрыках тут гутарка?

**Юлька** (турзае Міхася за рукаў). Маўчыце-ж!

**Міхалка.** Э, гэта конскія мэтрыкі; Юльця не даець веры, што коням пішуць мэтрыкі.

**Язэп.** Вядома, кожны заводны конь маець мэтрыку. То ў цябе конская мэтрыка у руцэ?

**Міхалка.** Але, гэта маей кабылы мэтрыка.

**Язэп.** Каштанкі?

**Міхалка.** Гэтай самай, каштанкі.

**Язэп.** А што-ж, кабыла нічога, спадабалася мне.

**Міхалка.** Дапраўды. (Да сябе). Старая падла й сьляпая.

**Язэп.** Ведаеш, што я скажу табе: ёсьцека ў мяне такая самая кабыла й ніяк пары не знайду, можа памяняем.

**Міхалка.** Чаму-ж не, мяняцца коньмі я люблю; скажэце прывясьці яе.

**Язэп.** Чаму не! (Праз вакно). Зьмітрук, хадзі сюды!

**Зьмітрук.** (за вакном). Што пану трэба?

**Язэп.** Вывядзі каштанку пана Міхала пад вакно, ведаеш каторую?

**Зьмітрук.** Каб ня ведаць...

**Язэп.** Упадабаў кабылу: мусіць дабрая й рослая.

**Міхалка** (да сябе). Ну й пазнаўся. (У голас). Так, паночку, гэта зграбная, шпаркая, чыстая канінка, добрая вам будзе пара.

**Язэп.** (глядзіць у вакно). Вось і вядуць тваю кабылку.

**Міхалка** (да сябе). Ужо буду хваліць яе так, як ты сваю дачку.

**Язэп.** Упадабаў! і рысь добрая.

**Міхалка.** А прыгожая, як абразочак?

**Язэп.** Но, ўжо як абразочак! ці не залішне, Міхалка. А колькі ёй гадоў?

**Міхалка.** Чатыры гады мінула. (Да сябе). Старая падла.

**Язэп.** Чатыры гады мінула, гм... А колькі хочаш за яе?

**Міхалка.** Дайце мне 200 рублёў і пару да мае шпачкі. (Да сябе). Падкаваў ужо я яго.

**Язэп.** Зяцю дам ужо 150 рублёў і дабрага коніка да тваей шпачкі, добра? З палы на палу!?

**Міхалка.** З палы на палу. (Да сябе). Сам ашукаўся.

**Язэп.** На грошы, каб зразу скончыць.

### ЗЬЯВА 16-ая.

**Тыя самыя.** Уваходзіць **Зьмітрук.**

**Змітрук.** Паночку!

**Язэп.** А што?

**Зьмітрук.** Кабыла гэтага пана разьбіла сабе галаву.

**Язэп.** Калі-ж гэта?

**Зьмітрук.** А вось цяпер. Мы яе пусьцілі, а яна, йдучы да стайні, выцелася галавою аб слуп і скалечылася.

**Язэп.** Якім парадкам?

**Зьмітрук.** Да такім парадкам, што гэта кабыла сьляпая.

**Язэп.** Як гэта, чатыры гады ды сьляпая.

**Міхалка** (да сябе). Вось уцешыцца тата, як скажу яму ўсё гэта.

**Зьмітрук.** Да ёй ужо з 20 гадоў; ні воднага зуба.

**Язэп** (да Міхалка). 20 гадоў, а што ты казаў: мінула чатыры.

**Міхалка.** Мінула чатыры гады, як вашай дачцэ 23.

**Язэп.** Ты з кім маю дачку раўнуеш!

**Міхалка.** Я так таргую коньмі, як вы дачкою.

ЗЬЯВА 17-ая.

**Тыя-ж самыя.** Уваходзіць **Адэля** і стаіць пры дзьверах.

**Адэля.** Што тут за крыкі?

**Язэп.** Я-ж вам ня сватаю сьляпой дачкі.

**Міхалка.** Хоць яшчэ не сляпую, але старую.

**Язэп.** Што? як вы сьме́яце?

**Міхалка.** Але! сьмею, бо маю мэтрыку панны Адэлі ў руках.

**Адэля** (йдзе ўперад). Татачка, грубіян!

**Язэп.** Цяпер хоць на каленах прасі, дачкі ня дам!

**Адэля.** І я не пайду за такога.

**Язэп.** Падам цябе ў газэты. Усё жыцьцё будзеш старым мальцам.

**Міхалка** (у дзьверах). Вось напалохаў, што-ж вы мне зробіце, калі я газэт у рукі не бяру. Юлька! едзем!

Заслона.

---

publiczny aż do odwołania. L. 65/v. dn. 4.1 r. 1928.
B. Aleksandrowicz. Za Komisarza Rządu na/m. Wilno".

**Францішак Аляхновіч.**

# На Вёсцы.

Ідыльлічны абразок у 2-х актах.

---

**Асобы:**

СТАСЮК, пастух. АНЕЛЬКА.
ГАНУЛЬКА. ЦЫГАНКА.

Хлопцы і дзяўчаты.

Рэч дзеецца ў полі за вёскаю. Сонца заходзіць.

## АКТ 1.

### ЗЬЯВА 1-ая.

**Стасюк, Анелька.**

**Стасюк** (сядзіць на камені й майструе дудку. Побач яго ляжыць на зямлі вяночак з польных кветак. За сцэнаю удалёчку чутно хор, які пяе народную песьню).

**Анелька** (уваходзіць і, пабачыўшы Стасюка, нясьмела затрымліваецеа ў глыбі сцэны). Стасюк!...

**Стасюк** (ня чуе й далей робіць сваю работу).

**Анелька** (галасьней). Стасюк!

**Стасюк** (аглядаецца). Што? чаго?

**Анелька** (засароміўшыся). Нічога... я так сабе...

**Стасюк** (ізноў бярэцца за работу).

**Анелька** (пасьля паўзы). Стасюк!

**Стасюк**. Чаго табе?

**Анелька**. Нічога, я так... Вось сонейка заходзіць, пара ўжо жывёлу з поля гнаць... А хмарачкі па небе так прыгожа ляглі!.. Здаецца, вось якійсь там вой на кані ляціць... (Паўза). Адна з тваіх авечак у лесі заблудзілася... Я яе знайшла і да стада прыгнала...

**Стасюк**. Добра... Дзякуй табе! (Паўза).

**Анелька**. Стасюк... я...

**Стасюк**. Чаго-ж табе яшчэ? Стасюк ды Стасюк!

**Анелька**. Стасюк! я... я... выбачай!.. Іду ўжо, іду! (Выбягае).

(Хор за сцэнаю памалу заціхае).

### ЗЬЯВА 2-ая.

**Стасюк** (адзін).

**Стасюк**. Дурная, як авечка! Чаго яна хоча ад мяне? (Глядзіць на неба). Запраўды сонца ўжо нізенька, і хутка ўжо трэба будзе стада да хаты гнаць, а Ганулька сягоньня ня прыйшла! Ня ведаю, што са мною!.. Калі Ганульку прыходзіцца доўга чакаць, здаецца мне, сэрца выскачыць з грудзей, здаецца, што вось ураз-жа захварэю... Ганулечка мая! Прыходзь-жа да мяне хутчэй! (Пяе).

Дзяўчынанька міла
душу мне згубіла,
як яе ня бачу,
сумую ды плачу.

З цела душа выйдзе,
як яна ня прыйдзе...

Ня жыць мне бяз Ганкі,—
без маей каханкі.

За бліск сініх вочак
з кветак дам вяночак,—
каб мяне любіла,
жыцьцё даў-бы мілай...

ЗЬЯВА 3-яя.

**Стасюк, Ганулька** (убягае).

**Ганулька.** Вось і я! Што, прычакаўся мяне? Дык ніяк не магла раней прыбегчы... Трэ' было ў дарогу зьбірацца... Ведаеш, бацькі пасылаюць мяне ў горад на службу!

**Стасюк** (спалохаўшыся). Што ты кажаш?

**Ганульиа.** Але... Ды заўтра ўжо раніцай трэба ехаць. Якраз заўтра бацька едзе да мястэчка на кірмаш, ён падвязе мяне на станцыю, а адтуль я ўжо адна паеду на чыгунцы да места.

**Стасюк** (як вышэй). На што да места?! на якую службу?

**Ганулка.** Паном, каторыя тут маюць маёнтак, патрэбна пакаёўка, і яны хочуць узяць мяне... Вось радасьць! буду па чыстых пакоях хадзіць, на мягкіх крэслах сядзець, лёгкую работу рабіць!.. Ах, Стасюк, як мне хочацца ў места!.. Ты дурны — ты ня ведаеш, што гэта значыць... Ты ніколі там ня быў, а я раз адзін была. Дамы тамака вялікія, вялікшыя за нашы касцёлы ды мураваныя! А людзей жа там шмат! і усё бягуць-бягуць, кудысьці сьпяшаюцца ажно сьмех бярэ.

**Стасюк** (сумна). А мяне пакінуць табе нічагусенькі не шкада?

**Ганулька** (ня шчыра). Шкада, Стасюк, але нічога не парадзіш, калі бацькі пасылаюць мяне туды.

**Стасюк.** Я бачу, што й сама ты гэтага вельмі хочаш.

**Ганулька** (трохі злосна). Дык што? Хачу ці не хачу — ехаць трэба.

**Стасюк.** Калі-б ты не захацела, то й ня было-б трэба.

**Ганулька.** А што-ж мне тутака рабіць? Усё жыцьцё тутака сядзець, марнаваць сваё жыцьцё тутака!? Мне хочацца жыць інакш.

**Стасюк.** Вось як! Значыцца, тое, што ты калісь казала, што любіш мяне — гэта няпраўда. Няпраўда, калі цяпер ты гэтак з лёгкім сэрцам кідаеш мяне назаўсёды!

**Ганулька** (ня шчыра). Ды не назаўсёды! Вось прыеду тутака можа ў другое лета — тагды ізноў пабачымся.

**Стасюк** Так доўга гэтага чакаць! Я-ж хіба тут памру з тугі па табе!... (Раптам). Ганулька і я паеду з табою ў места!

**Ганулька** Дурны ты! Што-ж ты тамака рабіць будзеш?

**Стасюк** А буду вось жывёлу пасьвіць, як і тут.

**Ганулька.** Дурны, Стасюк! Там пастухоў няма. Няма тамака ні палёў зялёных, ні гэтых горак, ні лясоў—ды сонейка інакш тамака сьвеціць...

**Стасюк** (зьдзівіўшыся). Няма? Дык як-жаж людзі там жывуць?

**Ганулька**. За тое іншых добрых рэчаў там ёсьць шмат. Крамы там з вялікімі-вялікімі вокнамы, а за шыбамі розныя прыгожыя ляжаць матэрыі... А людзі там ходзяць усё такія вызлегантаваныя, у бліскучых боціках, на галовах капялюшы дзіўныя, а паненкі ў каляровых едвабях ды атласах.

**Стасюк**. Ды дзеля гэтага кідаеш ты мяне?... (Бярэ з зямлі вянок). У гэтакім вяночку на галаве ты для мяне прыгажэйшая за найпрыгажэйшую паненку ў капялюшы... (Кладзе ёй на галаву вянок). Чакай... надзену на галованьку тваю й будзеш выглядаць як каралеўна.

**Ганулька**. Стасючок мой міленькі!... (Цалуе яго).

**Стасюк** (абыймае яе). Так добра тут! Тут сонца сьвеціць ясна, тутака птушкі так весела пяюць, а калі ты пры мне, здаецца, што вось-вось неба адчыніцца перада мною,—так добра мне, так шчасьлівы я!... А ты цяпер пакінуць мяне хочаш так, бяз жалю, назаўсёды!... (Пяе):

Так хораша, добра жылося
у вёсцы нам роденькай той,
шумелі у полі калосься,
а мы йшлі абняўшысь мяжой.

Цябе мо ўжо не пабачу,
калі цяпер кінеш мяне,
Ганулька, мей літасьць, я плачу,
бо надта люблю-ж я цябе...

**Ганулька** (пяе):

Нямашака рады на гэта,
калі так казалі бацькі;
Бог дасьць, на другое мо‘лета
пабачыш мяне ізноў ты.

І мне баліць сэрца таксама,
павер-жа, саколік ты мой,
што-ж зробіш, вось бацька і мама
казалі расстацца з табой.

(гавора): Будзь спакойны, Стасюк! Я буду памятаць аб табе й буду заўсёды цябе любіць... Але трэба ўжо сьпяшацца, ў хаце чакаюць мяне. Бывай здароў! (Цалуе яго). А вяночак я засушу і схаваю ў куфэрку ды, глянуўшы на яго, буду ўспамінаць цябе.

**Стасюк** (з просьбаю ў голас). Памятай аба мне!

**Ганулька**. Буду, буду заўсёды памятаць! (Падаюць сябе рукі й разам пяюць).

Клянусь табе на захад сонца,
клянусь табе шумам палёў,
любіць цябе буду да гробу,
сустрэчы чакаючы йзноў.

Памятаць цябе я буду
заўсёды праз усё жыцьцё,
ніколі цябе не забуду,
ты яснае сонца маё.

**Ганулька** (гавора). Ну, бывай здароў... Бягу ўжо! (Хутка выбягае).

### ЗЬЯВА 4-ая.

**Стасюк** (адзін).

**Стасюк**. Ганулька! Чакай! Яшчэ хвіліну!.. (Паўза). Пайшла! Пайшла і можа яшчэ ня вернецца! Ніколі!.. можа ўжо

ніколі... О, якое-ж гэта страшнае слова! (Сядае на камені). Ганулька! Як-жаж я цяпер жыць буду без цябе!.. (Пачынае плакаць).

### ЗЬЯВА 5-ая.

**Стасюк, хлопцы і дзяўчаты.**

За сцэнаю чуваць пяяньне хору; пасля праходзяць праз сцэну співаючы хлопцы і дзяўчаты з косамі і граблямі.

**1-ая дзяўчына** (да іншых). О, гляньце! Стасюк плача.

**1-ы хлапец.** Стасюк! Чаго зажурыўся?

**2-гі хлапец.** Стасюк! пара жывёлу да хаты гнаць!

**2-ая дзяўчына** (жартуючы). Стасюк! Авечку воўк панёс! Ха-ха-ха! (Усе са сьмехам выходзяць і пяюць. Песьня памалу заціхае).

### ЗЬЯВА 6-ая.

**Стасюк, Анелька.**

**Анелька** (ўваходзіць, спагадліва). Стасюк! Даражэнькі мой!

**Стасюк** (праз сьлёзы). Ідзі! Ідзі, Анелька, да хаты... Кінь мяне.

**Анелька.** Стасюк! Я табе памагу сагнаць жывёлу з поля... Добра?

**Стасюк.** Чаму ты такая... добра для мяне, Анелька?

**Анелька.** Бо я... бо я... (пачынае плакаць).

**Стасюк.** Чаго-ж ты? Кажы!

**Анелька** (закрываючы вочы). Бо я... Калі я саромяюся сказаць...

**Стасюк** (глядзіць на яе зьдзівіўшыся ды нічога не разумеючы).

Заслона.

---

## АКТ II.

Дэкарацыя такая-ж самая, як у 1-м акце. Праз нейкі час на сцэне нікога нямашака. Чутно ігру на дудцы. Пасьля ўваходзіць Стасюк з дудкаю ў руцэ.

### ЗЬЯВА 1-ая.

**Стасюк** (адзін).

**Стасюк** (сэнтымэнтальна). Вось ужо год прайшоў, другое прыйшло лета!... Так сама сонейка сьвеціць на захадзе, як тагды... Вось тое самае мейсца, дзе ў апошні разок бачыў яе, дзе вяночак з кветак сплёў... Вось год прайшоў, а яе як няма, так няма. Дзе яна? Што думае? Ці часта мяне ўспамінае?... (Пяе):

Да цябе ўздыхаю,
за табою сумую.
Калі-ж я пабачу
Ганку дарагую!

Зацьвітаюць кветкі,
так як і калісьцы,
а душанька сумна,
як дрэва бяз лісьця.

Сонца сьвеціць ясна,
як калісь сьвяціла,—
птушачкі пытаюць,
дзе-ж твая міла?

Птушачкі сьпяваюць,
як калісь пяялі...
Прадала дзяўчына
сэрца за каралі!...

(Сядае на камені й пачынае йграць на дудцы).

### ЗЬЯВА 2-ая.

**Стасюк, Цыганка.**

**Цыганка** (уваходзіць). Чаго сумны, хлапець? Чаго зажурыўся, маладзец? Хочаш — паваражу табе, ўсю праўду будзеш ведаць! Хочаш з рукі—дык з рукі, хочаш з карт,—дык з карт, ўсю праўду скажу, нічога не затаю... Каторая дзяўчына цябе любіць, каторую ты, малец, любіш, — усё ведаю, ўсё скажу... Хочаш, паваражу...

**Стасюк** (працягвае да яе далонь). Варажы.

**Цыганка** (разглядаючы руку Стасюка гаворыць манатонна, сьпеўна). Жыць будзеш доўга... аж да сьмерці. Калі-ж прыйдзе пара памерці, жыцьця ня будзеш праклінаць, бо шчасьце ў жыцьці будзеш знаць, бо вельмі шчасьліў будзеш ты!... Эх!... не маркоцься, ня тужы! Вось гэта лінія, што йдзе тут управа на тваей руцэ, гэта якраз на тое указ, што вельмі будзеш ты багаты, мець будзеш многа зямлі, хат, у цябе будзе ўсяго шмат!... Эй, не маркоцься-ж, Стасюк! на што? —ня трэба гэных мук! на што журыцца без патрэбы.

**Стасюк.** Дзе цяпер Ганулька?

**Цыганка.** А... дзе дзяўчына твая? — дык яна блізка адсюль, надта блізка, няраз я навет варажыла ей...

**Стасюк** (ускочыўшы). Дзе яна? Дзе?

**Цыганка.** Пачакай-жа! Дай-жа мне за варажбу...

**Стасюк** (выймае з-за пазухі вузялок з грашыма й кідае цыганцы). Вось ўсё, што маю... Бяры! ды кажы мне, дзе яна?

**Цыганка** (хаваючы грошы). Я ўжо для цябе буду старацца... Калі хочаш, дык навет любчыку дастану.

**Стасюк** (як вышэй). Кажы мне: дзе яна?!

**Цыганка**. Блізка... Яна ў паноў у маёнтку. Нядаўна яны прыехалі з места. А калі хочаш, дык я... (гледзяны ўдаль). Чакай!... вось, здаецца... Але! гэта яна! Вось там, глядзі! каля лесу Ганулька йдзе...

**Стасюк** (прыглядаючыся). Што? дзе? Гэта-ж якаясь пані!

**Цыганка.** Хэ хэ! Гэта яна. Вось схавайся там за гэты куст, а я зманю яе й прывяду сюды, ня кажучы нічога, што ты тут... (Выходзе).

### ЗЬЯВА 3-ая.

**Стасюк** (адзін).

**Стасюк**. Не разумею... Ці-ж можа быць! Гэта не яна... Гэтая ведзьма пэўна брэша... О, Божанька ты мой! сэрца б'ецца, быццым у клетцы птушка... Страшна мне!... А вось цыганка ўжо падыходзіць, кліча яе... ўжо каля яе... гавора нешта... А вось ужо йдуць! Сюды йдуць! Трэба схавацца (Хаваецца за кулісу).

## ЗЬЯВА 4-ая.

**Цыганка, Ганулька** (у мястовай вопратцы).

**Цыганка** (ідзе наперад). Хадзі, мая харошая, сюды, хадзі — паваражу табе. Дай толькі ручку беленькую сваю... А можа хочаш з карт? — дык з карт... Ня бойся цыганкі ты, хадзі-ж хутчэй са мною сюды...

**Ганулька** (ўваходзе за цыганкаю).

## ЗЬЯВА 5-ая.

**Ганулька, Стасюк.**

**Стасюк** (выбягае, радасна). Ганулька! Вось і я! ізноў каля цябе! Даўно ты тут? Чаму-ж вестачкі ніякай не дала?

**Цыганка** (хітра, сьмяючыся, ціха выходзе).

**Ганулька.** Не чапай мяне! Што было, тое прайшло Таго, што было, болей ня будзе! (Хоча ісьці).

**Стасюк** (затрымлівае яе). Ганулька! Чаму?

**Ганулька.** Пусьці мяне!... Бо так хачу!

**Стасюк.** Ты-ж так-год інакш казала. Ці-ж ты ўжо забылася?

**Ганулька.** Чаго хочаш? Я-ж выразна кажу: што было, болей ўжо ня вернецца... Ня люблю я ўжо цябе!

**Стасюк.** Ганулька! за што ты крыўдзіш, за што ты мучыш мяне? Чаму ты такая? Гэта хіба жарты? Хіба йзноў ўсё будзе, як было.

**Ганулька.** Не!

**Стасюк** Чаму?

**Ганулька.** Бо іншай стала я цяпер. Раней я была мужычка, так як ты. Цяпер я — паненка, а ты — мужык, пастух. Ты мне ўжо ня пáра. Мне быў-бы сорам знацца цяпер з табою.

**Стасюк** (горка). Але. Я бачу, што ты іншая цяпер. Інакш ты апранута,—паненка, і разам з вопраткамі й душа твая перэмянілася... Паганай стала цяпер душа твая!

**Ганулька.** Як ты паважыўся!... Гэта ты паганы, дурны мужык!

**Стасюк.** Як усё гэта зрабілася! як сталася, што ты праз год так перэмянілася?! Зачараваў цябе хто, ці што!?

**Ганулька.** Ніякіх тут чараў няма. Я, жывучы ў месьці, папрабавала іншага жыцьця й з мужыкамі ўжо болей жыць ня буду! Я ўжо ня тая самая, што раней была. Ты павінен выкінуць з галавы усё, што між намі было.

**Стасюк** (пяе):

Ганулька, я хіба здурэю,
за што столькі мук задаеш!
Любіць цябе я ўжо ня сьмею,
бо ты як паненка жывеш.

Ты шчасьцем напоўніла душу,
ты рай мне калісьці дала,—
Забыць цяпер гэта ўсё мушу,
і шчасьця ўжо болей няма.

**Ганулька** (пяе):

Дарма мне гаворыш ўсё гэта,
любоў быццам сон ўжо
прайшла.
У мяне зусім іншая мэта,
бо шчасьця мне зорка
ўзышла,

Цяпер у пакоях жыву я,
інакш апранаюся
цяпер,
і вёска мяне ніякая
ня звабіць жыць у хаце,
павер!

(Гавора). А каб яшчэ кахацца ў пастуху!... Ха-ха! Сьмех ды толькі! Ці-ж я магу любіць якогась дурнога Стасюка, калі ў месьце да мяне панічы заляцаюцца! — Ха-ха-ха!.. (Іранічна сьмяецца й выходзе).

## ЗЬЯВА 6-ая.

**Стасюк** (адзін).

**Стасюк.** Вось чакаў, яе!... Чакаў, як раса сонца... Праз цэлы год толькі аб ёй аднэй думаў, ўва снах сваіх толькі яе адну бачыў, не глядзеў навет на іншых дзяўчат, бо ёй аднэй аддаў сваё сэрца, ўсе свае думкі, — а яна вось як!... Я—пастух, я—дурны Стасюк, я—для яе ня пара!... О, Божа мой! што-ж я вінаваты, што я радзіўся ў вёсцы! О, чаму-ж я не мястовы паніч!... О, як страшэнна горка, сумна ў душы!... Ці варта далей гэтак жыць?—Э, лепш ужо зусім ня жыць, няхай ўжо раз уся бяда, ўсе мукі скончацца!... (Глядзіць ў кулісу). Вось бачу там, пры дарозе стаіць бяроза... Каханенькая! Яна сумна апусьціла ўніз свае галіны, яна таксама можа маркоціцца, што доля судзіла ёй аднэй расьці пры дарозе, аднэй, без пацехі, без вясельля, чакаючы толькі, калі пярун расшчэпіць яе на дзьве паловы, або малец-лясун выпусьціць з яе сокі!... Бярозанька мая сумненькая! ты адна і я адзін. Мы з сабою шлюб возьмем! (Адпярэзаецца). Во павешуся на аднэй з тваіх галін, а ты мяне прыгалубіш, цалуючы мой твар сваімі зялёнымі лісточкамі... І гэтак канец будзе... (Хоча бегчы. Пры апошніх яго словах увайшла Анелька. Стасюк яе ня бачыў. Анелька раптам хапае Стасюка за руку).

## ЗЬЯВА 7-ая.

**Стасюк, Анелька.**

**Анелька**. Стасюк! што ты хочаш рабіць?!

**Стасюк** (вырываючыся ад яе). Пусьці!...

**Анелька** (гавора скора). Мой бедненькі! мой залаценькі! Кінь гэта... ня трэба!.. Я табе ўсю праўду скажу: Ганульку ня трэба любіць... яна цябе ніколі ня любіла... Яна заўсёды толькі сьмяялася з цябе. Я нераз чула, як яна паміж дзяўчат сьмяялася ды жартавала з цябе, называючы цябе: дурны Стасюк... Спытайся: усе гэтае самае скажуць...

**Стасюк**. А... на што-ж ты ўсё гэта цяпер мне гаворыш?

**Анелька.** Бо... бо... я люблю цябе, саколік мой! Даўно ўжо люблю й мучылася... Нічога не казала, бо ты любіў яе—Ганульку. Ажно цяпер ня стрывала... Стасюк! мне нічога ня трэба. Ты ня любіш мяне, нічога не кажы да мяне, толькі кінь самагубную думку й дазволь ад часу да часу хоць здалёчку глядзець на цябе, саколік мой!

**Стасюк** (абыймае яе). Анелька!

**Анелька** (лёгка адпіхаючы яго). Ня трэба, не, ня трэба. Стасюк! ты-ж мяне ня любіш, дык на што?..

(За сцэнаю здалёк хор пачынае пяяць).

**Стасюк.** За сэрцэйка тваё галубінае, за душу тваю шчырую, за вочы твае сумненькія—люблю цябе, мая Анелечка!

**Анелька** (з радасьцю). Ах, Стасюк! ці-ж гэта праўда?

**Стасюк.** Праўду казалі, што я дурны. Я быў дурны, бо, бачучы цябе што дня, толькі цяпер палюбіў цябе... Чуеш, Анелька, там людзі пяюць песьню, сваю песьню, каторую іх бацькі й дзяды пялі... Яны не адракаюцца ні ад сваей песьні, ні ад сваей вёскі... Вось будзем, Анелька, усё жыцьцё жыць тутака на нашым родным загоне, будзем разам глядзець на захад нашага сонца, будзем нашы вясковыя вопраткі насіць, нашы простыя песьні пяяць... Нам ня трэба чужога, калі нашае роднае таксама прыгожае, а мо' й прыгажэйшае за чужое. Будзем тут свой век дажываць, любіць адзін аднаго й любіць свае родную зямельку, як родную маці... Пойдзем, Анелька, да людзей, разам з імі песьню пяяць і расказаць усім аб нашым шчасьці... Пойдзем, мая ты — пахам сенажаці, шопотам кветак пры заходзе сонца пасватаная!...

**Анелька** (туліцца да яго). Пойдзем, Стасюк!

Памалу выходзяць. Песьня за сцэнаю робіцца галасьнейшаю.
Памалу зачыняецца заслона.

Канец.

---

Za Starostę Grodzkiego W. Lemiszewski", m. Wilno.

А. Чужынін.

# Пярэстая Красуля.

Жарт у 1 дзеі.

З украінскае мовы пераклаў **Я. ШНАРКЕВІЧ**.

---

**Дзейныя асобы:**

БОБКІН, стары мешчанін. ТОБІ, яе жаніх.
БАРБАРА, яго дачка. МАРГАНЧЫК, гандляр.

На сцэне Бобкін, адзін, сядзіць каля стала й піша.

**Бобкін** (піша й чытае). „Прадаецца пярэстая карова за невялікую цану. Бачыць можна штодня ад пяці гадзін раніцы да адзінаццаці гадзін увечары ў пямяшчэньні Бобкіна“. (Ставіць на стол абвестку, выходзіць і чытае). Прадаецца... Так... Кажды дурань зразумее, што прадаецца карова, а ня шафа ці сабака. Барбара! Барбарачка! (Бярэ шапку ды йдзе. У гэты момант уваходзіць Барбара).

**Барбара**. Куды гэта ты, татка, зьбіраешся?

**Бобкін**. Па справе йду. Мне трэба вывесіць абвестку на браме, што прадаецца карова. (Зірнуўшы на яе). Але слухай, Барбарачка, што гэта ў цябе такі сумны выраз твару?

**Барбара**. Сягоньня, татачка, ў мяне вельмі важны дзень: ён рашае долю ўсяго майго жыцьця.

**Бобкін**. Адказвай, як на споведзі: каханьне, раман, захопленьне?

**Барбара**. І каханьне, й раман, і захопленьне. А да таго-ж... і да таго... закахана...

**Бобкін**. Закax... цьфу... Закахана! Хто-ж той паганец? га? Хто? (Ходзіць знэрваваны па хаце).

**Барбара**. Ось ён табе прэдставіцца.

**Бобкін**. Не, ён не прэдставіцца, а выставіцца адсюль, от што я табе скажу.

**Барбара**. Тата! я не маленькая, і маю свае ўласныя жаданьні, а да гэтаго-ж, я закахана.

**Бобкін**. Закахана? Цьфу! Дзе мая палка? Дзе рэбры твайго жаніха? Няхай ён толькі зьявіцца, то я яму дваццаць галоў скручу! Дачка, адна толькі ціхоня ды нявіннасьць і... закахана... Цьфу! Слухай, Барбара, каб на другую гадзіну быў гатовы самавар.

**Барбара**. Татачка, вы выходзіце?... Вы яго ня прымеце? Тагды от-жа на злосьць вам я залічуся ў старыя дзеўкі.

**Бобкін**. Калі прыйдзе купец у справе гэтай каровы, то прыймі й забаў яго. Закax... Цьфу! (Пайшоў).

**Барбара**. А я ўсіх вашых купцоў... (Плача й глядзіць у вакно). Пайшоў! Ці надоўга? На другую гадзіну наказаў наставіць самавар. Прыходзь! У хаце апроч мяне няма нікога. Прыйдзеш? Чакаціму! (Званок). Гэта ён, мой Тобі! (Становіцца каля дзьвярэй ды ў той момант, калі ўваходзіць Марганчык, яна кідаецца яму на шыю й цалуе).

**Марганчык.** Выбачце, паненачка. Ха-ха-ха!

**Барбара.** Выбачайце, я думала, што гэта бацька!

**Марганчык.** Але я яшчэ ня бацька. Чароўная паненачка!

**Барбара.** Што вам трэба?

**Марганчык.** Бачыце, паненачка, я меў гонар пабачыць! на браме... прыгожанькая кветка... на браме абвестку пра продаж пярэстай каровы, ды прыйшоў, каб яе купіць... (Убок) Цудоўны экзэмпляр.

**Барбара.** Бацькі няма ў дома. Ён вернецца толькі ў дзьве гадзіны.

**Марганчык.** Добра. Я зайду пазьней. А пакуль што скажэце бацьку, што прыходзіў пан Марганчык: Марганчык, а не Марданчык, морга, а ня морда.

**Барбара.** Добра, я скажу.

**Марганчык.** Да пабачаньня, мая заранька. Так не забудзь сказаць, што маё прозьвішча Марганчык, а не Марданчык, ад слова морга, а ня морда.

**Барбара.** Добра, добра!

**Марганчык.** Бывайце здаровы. (Убок). Чароўная дзяўчына! (Кланяецца, пасылае пацалункі й выходзіць).

**Барбара** (адна). От ускочыла! Чужому чалавеку на шыю кінулася... (Чутны званок). Слава табе Божа, гэта напэўна Тобі. Ідзі, йдзі, мой каханы! Я цябе гэтак чакаю! (Уваходзіць Марганчык, якога яна йзноў цалуе). Ах! Выбачайце! Я йзноў думала што гэта бацька!

**Марганчык.** Бацька! Хэ-хэ-хэ! А гэта я... йзноў!

**Барбара.** Чаго яшчэ вам трэба?

**Марганчык.** Бачыце, я прыйшоў напомніць вам, што маё прозьвішча Марганчык, а не Марданчык.

**Барбара.** Добра, добра! Чула ўжо, чула!

**Марганчык.** Так і сказаць: Марганчык. Толькі, калі ласка, не забудзьце, што маё прозьвішча ўтвараецца ад слова морга, а ня морда, Марганчык, а не Марданчык.

**Барбара.** Ну, добра, добра, скажу!

**Марганчык.** Да пабачаньня, маё сонейка, мая заранька ясная. (Шмат разоў кланяецца й выходзіць).

**Барбара.** Ага, вось бачу, я старэнькаму ўпадабалася, што яго памылкова пацалавала. Калі ён яшчэ раз падвернецца, то я яго так пацалую гэтым кіем, што ён не забудзе да новае стрэчы. (Званок). О, ізноў яго чэрці нясуць. (Бярэ кій ды становіцца каля дзьвярэй. Уваходзіць Тобі. Яна яго б'е кіем). Ах!

**Тобі.** Барбарачка! Што ты ашалела, ці што?

**Барбара.** Тобі, гэта ты? Выбач, каханы!

**Тобі.** Гэта пэўна што я, а ня сьвіньня. Ну, й пачаставала! Ну што, ты казала бацьку, што я прыйду сягоньня з ім пазнаёміцца?

**Барбара.** Сказала, ды ён абяцаў пераламаць табе дзьвесьці рэбраў.

**Тобі.** Але-ж у мяне іх столькі й няма. Дык няўжо-ж ён не разумее, што я цябе, Барбара, кахаю ды яшчэ й як кахаю! Усім запалам першага каханьня". (Званок).

**Барбара.** Гэта, мусіць, тата! (Падыходзіць да вакна). Так і ёсьць. Тобі, ўцякай адгэтуль, дзеля Бога!

**Тобі.** Але-ж куды?

**Барбара.** Уцякай праз вакно. Па трубах дажджавых.

**Тобі.** Дык я-ж увесь запэцкаюся.

**Барбара.** Куды хочаш, туды й уцякай! Але, дзеля Бога як мага хутчэй уцякай! (Выбягае).

**Тобі.** Куды-ж мне ад яго падзецца? (Кідаецца да вакна). Высока й боязна. А, чорт яго бяры! Чаго там! Вазьму ды сяду. (Сеў. Уваходзіць Бобкін).

**Бобкін.** Ага! Толькі што павесіў абвестку, а купец ужо й ёсьць. Як маешся, дзяцюк (Убок). Які-ж ён нясьмелы! Чаго вы хочаце?

**Тобі.** Я, уласна, дзякую... Бачыце, толькі што парна было, а тут ужо й дождж.

**Бобкін.** Нешта ня прыкмеціў, каб быў дождж. Мне Барбарачка сказала, што мяне чакае якійсь дзяцюк. Дужа, дужа прыемна пазнаёміцца. Не жанаты.

**Тобі.** Ня зусім не жанаты?

**Бобкін.** Вы каровы яшчэ не гадавалі?

**Тобі.** Каровы? Як гэта, не, не, не гадаваў!

**Бобкін.** Так. А ведаеце, усё-ж такі прыемна абзавясьціся скацінкаю.

**Тобі.** Так, так, ведаеце... у мяне... ў жылах цячэ... такая кроў, дзеля чаго я хацеў... (Убок). Э, ды чаго тут пужацца, валю проста з мосту! (Падае на калені). Аддайце мне яе, прашу вас, аддайце!

**Бобкін.** Ну, ну, ладна, ладна! нічога не парадзіш! Прыдзецца аддаць, калі вы ўжо так просіце. Ну, а як-жа будзе адносна грошаў?

**Тобі** Гэта ўсё я прыймаю на свой кошт. Ды калі што яшчэ там будзе патрэбна больш, ну, ведаеце, усё, што трэба ў гэтакім выпадку, так сказаць, пасаг, то не клапацецеся, калі ласка.

**Бобкін.** Не, чаго-ж... Я яе аддам з усім яе прыданым. Там у мяне засталося мякіны са два мяшкі, тры дайніцы, два цэбры...

**Тобі.** Дзякую, я люблю й цэбры, й даёнкі, усё гэта, ведаеце, ў гаспадарцы прыдасцца.

**Бобкін.** Ого! Яшчэ й як прыдасцца! А ведаеце, шкада мне яе вам аддаваць.

**Тобі.** Я вас зусім разумею, яшчэ й як, бацькаўскія пачуцьці...

**Бобкін.** Ну, ну! выбачайце, якія гэта ў мяне могуць быць да яе бацькаўскія пачуцьці?

**Тобі.** Уласна, не пачуцьці, а так сказаць, адна душа, адна прырода, ды потым...

**Бобкін.** Дазвольце, дазвольце, якая там у чорта душа, якая прырода!

**Тобі.** Уласна, ня душа... а... але-ж вы яе любіце?

**Бобкін.** Ага, ці люблю я яе? Пэўна, што люблю, пэўна!

Ой, як мне шкода вам яе аддаваць, навет сьлёзы на вачох навярнуліся. Ось я зараз пайду да яе, абніму й скажу: бывай, мая пярэстая красуля!

**Тобі**. Пярэстая?

**Бобкін.** А яна нібы зразумее мяне, гляне ды яшчэ хвосьцікам увабодвы бакі кіў-кіў, мах-мах!

**Тобі**. Якім хвосьцікам?

**Бобкін.** А як-жа, там у яе хвост аршынаў з паўтара. Ось толькі дрэнна, што апошнім часам стала малака менш даваць.

**Тобі**. А гэта й добра! Я малака зусім ня п'ю.

**Бобкін**. Ну што тут добрага? Малако трэба піць.

**Тобі**. А так, так мне доктар казаў...

**Бобкін.** Я таксама да яе са два разы заклікаў вэтэрынара (доктар, які лечыць жывёлы), дык нічога, кажа, паправіцца.

**Тобі**. А як-жа, а як-жа — разумею! Вэтэрынар паправіцца — разумею. (Убок). Ні чарта не разумею!

**Бобкін**. Ну й марудзіць часам, гэта таксама бывае.

**Тобі**. Ну, бяз гэтага ня можна. Жаноцкая ўдача.

**Бобкін**. Ось аднаго разу, ведаеце, здарылася так, што я ўваходжу да яе, а яна мяне не пазнала, ды як брыкне...

**Тобі**. Яна й брыкаецца?

**Бобкін**. Ого! яшчэ й як! На мілу душу!

**Тобі**. Як гэта яна таго... брыкаецца, дык мы можа пачакаем год, другі, пакуль я скончу навуку...

**Бобкін**. Што вы, што вы? Сапсуецца, зусім запсуецца! Пэўна, што яна спачатку вас баяцімецца, але потым, як гаворыцца, сьцерпіцца—зьлюбіцца.

**Тобі**. Ой! Як я вам удзячны!

**Бобкін**. Ну, добра, добра! Толькі-ж не забывайце, што раніцай і вечарам даваць ёй пойла. А пасьля трэба, каб хлеў, дзе яе будзеце трымаць узімку, заўсёды быў цёплы. Калі яшчэ гэтакага ня маеце, дык збудуйце.

**Тобі**. А я думаў для яе знайсьці кватэру на першым паверсе (этажы).

**Бобкін**. Што вы, што вы? Ня ўлезе, ды хто-ж іх там трымае? Пачакайце, ось я вас зараз пачастую яе творамі (малаком і маслам), пальчыкі абліжаце! (Выходзіць).

**Барбара** (Ўваходзячы). Ну, што? У цябе яшчэ ўсе рэбры ма мейсцы?

**Тобі**. Усе, ўсе! Ен згадзіўся!

**Барбара**. Нашто згадзіўся? Ці ты з глузду зьехаў?

**Тобі**. Ані трошкі! Я яму адразу ўсё выклаў, што й люблю, й жыць без цябе не магу. А ён адразу маўчаў, маўчаў, а потым і кажа: шкода мне яе вам аддаваць. Толькі ось што пагана, што я даведаўся, што ты любіш марудзіць.

**Барбара**. Што табе бацька казаў?

**Тобі**. Так! Ужо й пра пасаг гутарылі: там вёдры, там дайнічкі...

**Барбара**. Не паверу! Ай, бацька йдзе! (Уцякае)[1]

**Бобкін** (уваходзіць з малаком). Ось пакаштуйце. Не, вы выпійце да рэшты. Ну што, праўда, смачнае?

**Тобі**. Паршыв... ці то пах... дзіўна, дзіўна!

**Бобкін.** От бачыце, якое малачко! Барбара, Барбарачка! (Уваходзіць Барбара). Ты ведаеш, чаго прыйшоў гэты сымпатычны (прыемны) дабрадзей?

**Барбара.** Ведаю, татачка!

**Бобкін.** Без тваей згоды я не магу. Ну, як ты думаеш, аддаваць ці не?

**Барбара**. Татачка! (Кідаецца яму на шыю).

**Тобі**. Татачка!

**Бобкін.** Ну добра, добра! Толькі не забывайце-ж, што рана й вечарам даваць пойла. Акром таго, купіць сабе разлучнік (Сэпаратар).

**Тобі.** А на што-ж разлучнік?

**Бобкін.** Як нашто? У гаспадарцы прыдасца. Ну, Барбарачка, павядзі яго да яе, няхай ён бліжэй з ею пазнаёміцца. (Званок). А я пайду, а то там яшчэ хтось прыйшоў. (Пайшоў).

**Тобі.** Дык гэта табе даваць пойла?

**Барбара**. (плача). Не, карове.

**Тобі**. Дык, значыць, гэта карова брыкаецца, а ня ты?

**Барбара**. Т-т-а-к (Паўза). Калі ласка, хадзеце, я вас бліжэй пазнаёмлю з вашаю маючаю быць нявестаю. (Ідзе ў дзьверы).

**Тобі**. Барба! Барбарачка! Ты-ж зразумей, што тут непаразуменьне. (Ідзе за ею, выходзіць. Паўза).

Уваходзяць: **Бобкін і Марганчык**.

**Марганчык.** Дазволю сабе адрэкамендавацца: Марганчык. Зьвяртаю вашу сардэчную ўвагу на тое, што маё прозьвішча Марганчык, а не Марданчык, морга а ня морда.

**Бобкін** Дужа прыемна. (Убок). Прэпаршывая морда! Чым магу служыць?

**Марганчык**. От-жа, прашу, бачыце, я зьявіўся ў справе, так сказаць... тут ваша дачка... прыгожая дачка...

**Бобкін** (сам сабе). Ага, так і ёсьць, гэта той самы падлюка, пра якога яна мне казала. Ну і што-ж там мая дачка?

**Марганчык**. Цудоўнае стварэньне! Яна мяне тут, як вас ня было, аж два разы пацалавала.

**Бобкін**. Што такое? пацалавала? Дзе мой кій? Ой, трымайце мяне, бо я яго акалечу! Ну, што-ж далей?

**Марганчык.** Бачыце, я ось зьявіўся да вас, каб наладзіць афіцыяльную справу... ўмову...

**Бобкін.** Так? Умову, законны шлюб?

**Марганчык.** О, не! Я прынцыпова вораг шлюбаў. У мяне ёсьць эканомка (служанка), што выконвае гаспадарчыя абавязкі ды ўсялякія іншыя.

**Бобкін.** Ды пасьля гэтага вы наважыліся бацьку прапанаваць гэткія рэчы?

**Марганчык**. Выбачайце, ня ведаў, што вы яе бацька!

**Бобкін.** А хто-ж яе бацька? Га? Проч ад мяне!

**Марганчык**. Але-ж дазьвольце, як першы, які запрапанаваў вам адносна...

**Бобкін**. Проч адгэтуль!... бо я за сябе ня ручаюся! Барбара! (Уваходзіць Барбара).

**Барбара**. Што такое, татачка?

**Бобкін**. Ось гэты дабрадзей, якому ты чаплялася на шыю...

**Барбара**. Памылкова, татачка!

**Бобкін**. Ось гэта морда прапануе табе пайсьці да яго! Але ён вораг шлюбу ды жыве са сваею служанкаю! Проч! Проч!

**Марганчык**. Што? Што такое? Мяне проч! Мяне проч! Дык я пляваць хачу на вашу карову! Я такіх тысячу знайду!

**Бобкін**. Што такое? мая дачка карова? Дык мо яшчэ цяля?! Проч ад мяне! Проч ад мяне, паршывая морда!

**Марганчык**. Каровін бацька!

**Бобкін**. Проч! А то я з цябе зраблю кашу. (Марганчык выходзіць). О, Барбара, Барбара! Каму ты сябе хацела аддаць? Гэтаму агіднаму галышу! Дзе-ж былі твае вочы?

**Марганчык** (высоўвае галаву ў дзьверы): Цялячы галыш.

**Бобкін**. Проч, проч ад мяне, паршывая морда! Ну, я яшчэ разумею, калі-б ты застанавіла свой выбар на гэтым дзяцюку, што купляе ў нас карову...

**Барбара**. Татачка!

**Бобкін**. Маўчы! ну, тады іншая справа, а то агідны, распусны галыш. (Уваходзіць Тобі). Ну, падзівіся. Ці-ж можна параўняць? Ну, ну, як ён табе падабаецца?

**Барбара**. Нічога сабе, толькі дужа тонкі.

**Бобкін**. Ен тонкі! А на што-ж табе грубы? Дабрадзей! хочаце ў прыдачу да каровы атрымаць яшчэ й маю дачку? Хочаце?

**Тобі**. Ня ведаю, дальбог, як вам і сказаць...

**Бобкін**. Ну, дзеці маі, пабярэцеся. Ну, зрабеце гэта для мяне. Ось падзівецеся: яна гэткая прыгожанькая, а вы таксама нічога сабе. Я вам ужо й карову так дам... і разлучнік куплю. Зрабеце гэта для мяне старога. Ну, дзеля Бога, зрабеце. Няўжо-ж гэта вам так трудна зрабіць?

**Тобі**. Дык я не дзеля таго... калі вы ўжо так просіце...

**Барбара**. Я таксама не адмаўляюся.

**Бобкін**. Ну, й добра! Жанецеся, любеце, ды дай вам Божа, каб у вас праз год было цялятка, цьфу, дзіцятка! (Вяртаецца Марганчык).

**Марганчык** (хапаючы капялюш, што забыў на дзьверах). Бычачы галыш!

**Бобкін**. Ты ізноў? Проч, проч ад мяне, паршывая морда!

(З а с л о н а).

- Канец. -

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая вул. № 22.

## I. П'есы для беларускага тэатру.

**Фр. Аляхновіч**. „Заручыны Паўлінкі", п'еса ў 1 акце з песьнямі і скокамі . . . . . 35 гр.
**Яго-ж:** „Птушка шчасьця", п'еса ў 3 акт. са сьпевамі і танцамі . . . . . . . . . . . . . . . 40 гр.
**Яго-ж:** „Калісь", сцэнічны абразок ў 2 акт. . . . . . 40 гр.
**Яго-ж:** „Пан міністар", камэдыя ў 3 акт. . . . . . . 60 гр.
**Яго-ж:** „Страхі жыцьця", драма ў 3 акт. . . . . . . 50 гр.
**Яго-ж:** „Дрыгва", драматычны эскіз ў 6 абразох . . 1.50 гр.
**Яго-ж:** „Няскончаная драма", п'еса у 4 акт. . . . . 1.00 гр.
**Я. Башкір:** „Гурток", камэдыя ў 1 дзеі з сучасн. жыцьця 40 гр.
**А. Васілеўскі**; „Дахапаліся!..", правінц. абразкі з нядаўняй мінуўшчыны . . . . . . . 30 гр.
**К. Вясёлы:** „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам", п'еса з вясковага жыцьця ў 4 акт. . . . . . 50 гр.
**У. Галубок:** „Апошняе спатканьне", драма ў 4 акт. . 40 гр.
**Яго-ж:** „Суд", п'еса ў 1 акце . . . . . . . . . . . . . 40 гр.
**М. Гарэцкі:** „Атрута", кароткі жалобн. абраз. у 1 акце 30 гр.
**A. Harotny:** „Lekary i leki", kamedyja ŭ 1 dziei . . . 30 гр.
**S. Hrynkiewicz:** „Žanimstwa pa radyo", pjesa ŭ 3 abraz. 50 гр.
**Д. Гутоўскі:** „Сурдут і сярмяга", драматычны абраз. у 3 акт. з песьнямі і танцамі . . . 70 гр.
**К. С.** „Янка Канцавы", вясковая драма ў 5 дзеях . . 50 гр.
**К. Каганец:** „У іншым шчасьці няшчасьце схавана" . 20 гр.
Зборнік—**М. Крапіўніцкі:** „Па рэвізіі", кам. ў 1 дзеі і **Карусь Каганец:** „Модны Шляхцюк", п'еса ў 1 дзеі . . . . . . . . . . . . . . 60 гр.
**М. Крапіўніцкі:** „Пашыліся ў Дурні", жарт у 3 дзеях . 60 гр.
Зборнік — „Боты", водэвіль з песьнямі і танцамі
**М. Чудзелька:** „Мікітаў лапаць", кам. ў 2 акт.
**А. Паўлоўскі і А. Голянскі:** „Пакой у наймы", жарт у 1 акце.
**Фр. Аляхновіч:** „Чорт і баба", жарт у 1 акце . 1.20 гр.
**Янка Купала:** „Раскіданае гняздо", драма ў 5 акт. . . 1.20 гр.
**Яго-ж:** „Паўлінка", сцэны з шляхоцк. жыцьця . . . 70 гр.
**Э. Ожэшко:** „У Зімовы вечар", сцэна з сялян. жыцьця 50 гр.
**А. Паўловіч:** „Васількі", драма з сучасн. жыцьця . . 50 гр.
Зборнік—**Л. Родзевіч:** „Зьбянтэжаны Саўка", жарт у 1 дзеі.
„Пасланец", жарт у 1 дзеі.
„Конскі партрэт", жарт у 1 дзеі . . . . . 60 гр.
**Аграном Уліцін:** „Суд над трохпалёўкаю", агро-п'еса ў 1 акце . . . . . . . . . . . . . . . . . 40 гр.
Зборнік—**Фр. Аляхновіч:** „Дзядзька Якуб", ж. у 1 ак.
„Міхалка", жарт у 1 акце.
**Фр. Аляхновіч:** „На вёсцы", ідыльлічны абр. у 1 акце.
**А. Чужынін:** „Пярэстая Красуля", жарт у 1 акце . . . . . . . . . . . . . . . . 1.30 гр.

## II. Прыгожае пісьменства.

Н. Арсеньнева: „Пад сінім небам“, зборнік вершаў . 2.50 гр.
М. Багдановіч: „Вянок“, зборнік вершаў . . . . . 2.50 гр.
Ф. Багушэвіч: „Дудка Беларуская“ . . . . . . . . . 60 гр.
А. Блок: „Дванаццаць“ . . . . . . . . . . . . . . . . 50 гр.
К. Буйла: „Курганная кветка“ . . . . . . . . . . . 1.50 гр.
М. Гарэцкі: „Рунь“, зборнік апавяданьняў . . . . . 1.75 гр.
Яго-ж: „Дзьве Душы“, повесьць . . . . . . . . . 1.50 гр.
Тарас Гушча: „У Палескай Глушы“ . . . . . . . . 3.45 гр.
Яго-ж: „Родныя З'явы“, зборнік апавяданьняў . . 2.50 гр.
Яго-ж: „Казкі жыцьця“ . . . . . . . . . . . . . . . 1.80 гр.
Якуб Колас: „Выбраныя творы“ . . . . . . . . . . . 2.—
Яго-ж: „Новая Зямля“, поэма-вершам. Кніжка 1-ая . 2.—
Яго-ж: „Сымон Музыка“, вершаваная поэма . . . . 2.80 гр.
Янка Купала: „Адвечная Песьня ў XII праявах . . . 50 гр.
Яго-ж: „Шляхам Жыцьця“, зборнік вершаў . . . . 5.10 гр.
у вокладцы . 5.60 гр.
А. Купрын: „Алеся“, апавяданьне . . . . . . . . . 1.50 гр.
М. Лермантаў: „Мцыры“, поэма . . . . . . . . . . 40 гр.
Яго-ж: „Дэмон“, усходняя повесьць . . . . . . . . . 70 гр.
К. Сваяк: „Мая Ліра“, зборнік вершаў . . . . . . . 1.40 гр.
Г. Сянькевіч: „Бартэк пераможнік“, апавяданьне . 80 гр.
Тарас Шаўчэнка: „Кацярына“ . . . . . . . . . . . 40 гр.
Марк Тван: „Прынц і жабрак“, повесьць для юнацтва 5.—

## III. Казкі, байкі, гумар.

„Тарас на парнасе“, поэма . . . . . . . . . . . . . 25 гр.
А. Паўловіч: „Снапок“, зборнік вершаў . . . . . . 50 гр.
Ядвігін Ш: „Бярозка“, зборнік апавяданьняў . . . . 90 гр.
Б. Друцкі-Падбярэскі: „Байкі“, гумар і сатыра . . . . 1.20 гр.
С. Макманус: „Ірляндзкія народныя казкі“ . . . . . 2.75 гр.
Ганс-Хрыстыян Андэрсэн: „Казкі“ . . . . . . . . . 1.45 гр.
„Маланка“, гумарыстычны журнал. Адзін номер . . .30 гр.

## IV. Дзіцячы Аддзел.

Малады Дзядок: „Елка Дзеда Мароза“, Калядны абразок у 1 дзеі для дзяцей . . . . . . . 35 гр.
„Betlejka“, sceničnaja štuka u 5 źjawach . . . . . . 50 гр.
P. Sałaŭjeŭ: „Cudoŭnaja noč“, scen. twor dla dziaciej 40 гр.
„Заранка“, дзіцячы што месячны журнал. Адз. ном. 35 гр.
„Sadok dla našych dzietak“, zbornik apawiadańniaŭ i wiersaŭ dla dziacej . . . . . . . . . . 30 гр.
Антон Грыневіч: „Дзіцячы сьпеўнік“ . . . . . . . . 1.20 гр.
Рагоўскі: „Беларускі песеньнік“ . . . . . . . . . . 50 гр.

---